

НАР·КАМ·ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР

# ПЛУГ






1926
МЕНСК

КРАСАВІК

№ 4

## ЗЬМЕСТ.



---



---

Менск, 1-я друкарня „ДВБ“. Заказ № 2353—10300. Галоўлітбел № 17.071.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня Красавік 1926 г. № 4



## „Дзень лесу"—грамадзянскае сьвята.

**Лес—наша багацьце. Лес дае матэрыял для будоўлі, розных вырабаў і прамысловасьці. Ахова лесу—грамадзянскі абавязак. „Дзень лесу"—культурна-гаспадарчае сьвята вясны.**

Адным з галоўных багацьцяў нашай Беларусі зьяўляецца лес. Ён мае самае шырокае і рознастайнае скарыстаньне, як у жыцьці ўсёй краіны, так і ў жыцьці паасобнага жыхара, асабліва селяніна.

Лес дае нам дровы на апал, бярвеньні, дошкі, драніцы і інш. матэрыялы на будынкі. З драўніны робяцца калёсы, драбінкі, сані, бароны або майструюцца сталы, лыжкі, міскі, карыты, кадушкі і шмат іншых рэчаў.

На заводах і фабрыках ужо машынамі з лесу вырабляюцца фанера, розная мэбля, музычныя інструмэнты і г. д.

Пры хэмічнай апрацоўцы на заводах з драўніны здабываюць дзёгаць, смалу, калёсную мазь, драўляны сьпірытус, воцат, шкіпідар, паперу і інш.

У апошні час з драўніны пачалі выбляць штучную шаўковую тканіну, а з соку клёну і бярозы—цукар. Ліпавую кару дзяруць на лыка, з яе-ж выробляюць рагожы, мяшкі і інш. Кара вярбы, дуба елкі скарыстоўваецца для вырабу скур.

Дзяржаве лес патрэбны на пабудову чыгунак, вагонаў, параходаў, мастоў, шахт і інш.

Апрача таго ў лесе зьбіраюць грыбы, ягады, арэхі, жалуды, пасуць скаціну, часова выробляюць вучасткі пад пасевы, косяць сена, здабываюць торф і інш.

Лес абараняе поле ад сухменю, сыпучых пяскоў, ветраў, затрымоўвае ўтварэньне равоў, дае дождж і расу, ахоўвае ручаі і рэчкі, аздараўляе мясцовасьць.

Ня гледзячы на такую вялікую карысьць, што прыносіць лес людзі яшчэ да гэтага часу часта зьяўляюцца яго ворагамі.

Самавольнымі парубкамі лясы нішчацца самым няшчадным чынам. Маладнякі вытаптваюцца скацінай; ад нядбайства пры раскладаньні агню і паленьня табакі здараюцца лясныя пажары, якія зьніштажаюць вялікія лясныя плошчы і прыносяць вагромністы ўбытак. Самавольныя распрацоўкі псуюць лес.

Больш таго, нават пераданыя ў карыстаньне сялянам лясы мясцовага значэньня зьністажаюцца самымі лесакарыстацелямі і г. д.

Усё гэта кажа аб тым, што насельніцтва зусім не разумее той шкоды, якую яно робіць лесу, і не клапоціцца за будучыну, г. зн. не клапоціцца аб тым, каб лесу хапіла ня толькі нам, але нашым дзецям ўнукам.

Правільнае карыстаньне лясамі і іх абарона могуць праводзіцца толькі пры разуменьні значэньня лясной гаспадаркі ўсім насельніцтвам і асабліва сялянствам.

Для пропаганды значэньня лесу і ашчэдных да яго адносін у 1923 годзе першы раз быў організаваны „Дзень Лесу“.

Гэта таксама народнае *савецкае сьвята*, як і „Дзень Ураджаю“, якому надаецца значэньне бытавога і гаспадарчага сьвята.

„Сьвята ўраджаю“ замяняе сабою шэраг асеньніх рэлігійных часам разгульных сьвят. У час сьвята „Дзень Ураджаю“ праз агрономічную пропаганду, на с.-г. выстаўках і экскурсіях насельніцтва падлічвае лепшыя дасягненьні ў сельскай гаспадарцы. У гэты час скарыстоўваюцца ўсе культурныя сілы для пашырэньня сярод сялян спосабаў лепшага вядзеньня гаспадаркі.

„Дзень Лесу“-ж замянае сабой адно з вясеньніх сьвят і пашырае сярод сялян сьвядомыя адносіны да лесу. У гэты дзень спэцыялістыя лясной гаспадаркі тлумачаць насельніцтву аб спосабах правільнага вядзеньня лясной гаспадаркі, аблясеньня пяскоў і пусташаў, замацаваньня равоў, берагоў рэчак, пасадцы дрэў у сялібах і г. д.

1. Вось чаму лёзунг *„Адносься ашчэдна да лесу, карыстайся ім па пляну, садзі зноў тое, што высякаецца“*, павінен стаць галоўным лёзунгам пропаганды ў „Дзень Лесу“ сярод шырокіх мас сялянства.

2. „Дзень Лесу“ павінен падлічыць вынікі ў нашай лясной справе і згуртаваць нас для пасьпешнай працы ў далейшым. Ён павінен замяніць сабою старыя рэлігійныя сьвяты і з аднаго дня мо' расьцягнуцца ў тыдзень.

3. Няхай у гэты дзень ад краю да краю загрымяць вольныя песьні моладзі і дружна застукаюць лапаты, пашыраючы нашы лясы, якія так патрэбны для нашай вёскі, для новага жыцьця!

**Ів. П. Скамарохаў.**

---

**1. Лясы—наша сіла і багацьце.**

**2. Лясы дапамаглі рэволюцыі: у цяжкія гады яны замянілі вугаль і нафту.**

**3. Лес—верны прыяцель земляроба.**

**4. Многа лесу—многа сьнегу і вады.**

**5. Беражы лес: ён патрэбен табе, тваім дзецям і ўнукам.**

**6. Парубшчык—вораг лесу і ўсіх працоўных.**

**7. Дрэва паваліць—пяць мінут, а вырасьціць—сто год.**

**8. Ад маленькага кастра згараюць вялікія лясы.**

**9. Абсадзі хату таполяю, асінай ці бярозай, і ня бойся пажару.**

**10. Сячы толькі штогодны прырост, будзеш заўсёды з лесам.**

**11. Лес—прыяцель паляўнічага.**

**12. „Дзень Лесу“—барацьба за здароўе.**

**13. „Дзень Лесу“—барацьба за культуру.**

**14. Ячэйкі, піонэры, школы—бярэце шэфства надляснымі пасадкамі.**

---




# Што зроблена за „Дзень Лесу“ ў мінулым годзе.

За кароткі час Савецкага будаўніцтва „Дзень Лесу“ пусьціў ужо глыбокія карэньні ў гушчу працоўных мас. „Дзень Лесу“ стаў неабходным сьвятам усяе грамады працоўных, як фактар культурнага ўзросту сялянства. Аб гэтым гавораць і дасягненьні. У мінулым годзе ў „Дзень Лесу“ шмат што зроблена:

| ШТО ЗРОБЛЕНА | Колькі |
|---|---|
| Пасеена лесу . . . . | 398 дзес. |
| Пасаджана лесу . . . . | 105 „ |
| Заложана выхавальнікаў . . | 4,43 „ |
| Заложана паркаў . . . | 4,21 „ |
| Ачышчана лесу і пажар. палос. | 1095 „ |
| Пасаджана на вуліцах дрэў . | 25185 шт. |
| Абсаджана дарог . . . | 8,5 вёрст. |
| Праведзена лекцый, спэцыяльных гутарак і экскурсій . . | 633 |

Усяго ў сьвяце „Дзень Лесу“ прымала ўдзел 54.690 асоб. А гэта сьведчыць аб тым, што ў адзін дзень такая праца ня можа быць праведзена, і што ўсякая вёска стараецца ў гэты дзень што-небудзь зрабіць.

Няхай-жа ў бягучым годзе наш „Дзень Лесу“ праходзіць пад лёзунгам „Тыднёвіка або Двухтыднёвіка Лесу“. У гэтым годзе таксама павінна павялічыцца організацыя ячэек „Прыхільнікаў лесу“.

Няхай праходзіць „Двухтыднёвік Лесу“ пад лёзунгам змычкі ўсіх працоўных ва ўпартай барацьбе за будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі.

М. Дзівак.

---

# Садзеце дрэвы ў горадзе.

Прыгожасьць гораду, чыстае і здаровае паветра значна залежаць ад гарадзкіх пасадак. Асаблівае значэньне іх у летні час, калі паліць сонца, а вецер носіць хмары пылу. Для грамадзян у гэты час ёсьць адна абарона—зелень дрэў. Падругое, шэраг досьледаў паказвае, што блізка дрэўных пасадак паветра мае шмат азоту і добра ўплывае на наш організм. Такім чынам, гарадзкія паркі і сады і зьяўляюцца месцамі здаровага і чыстага паветра.

Вялікае значэньне маюць пасадкі ў гарадох і пасёлках, дзе шмат драўляных будынкаў. У час пажару дрэвы затрымоўваюць пераход агня і часта бароняць суседнія будынкі.

Але што-ж мы бачым на справе? Далёка ня ўсё добра. Дрэвы часта ў нас выбіраюцца выпадкова, пасаджаны абы як і дзе папала; шмат парод не адпавядаюць ні глебе, ні кліматычным умовам, дзе яны растуць.

У цяперашні час, калі штогод бываюць „Тыдні лесу“, па ўсяму СССР нясецца адно—„садзіце дрэвы!“ Хочацца шчыра пажадаць, каб і ў нас на пашырэньне гарадзкіх садоў была нарэшце зьвернута належная ўвага.

С. Г.

# Колькі лесу ў Беларусі.

**Беларусь мае столькі лесу, колькі і Нямеччына, якая купляе драўніну. Лясістымі акругамі ў нас лічацца Мазырская і Барысаўская, а малалясньмі Калінінская і Віцебская.**

Процант лясістасьці паказвае нам нашы лясныя багацьці. Больш дакладны малюнак аб колькасьці нашых лясоў дае тая плошча лесу, якая прыпадае на аднаго чалавека і на адну гаспадарку.

Калі ўзяць удобную лясную плошчу Беларусі (2.921.554 гэктары) і падзяліць на лік жыхароў Беларусі, а таксама і на лік сялянскіх двароў, то пабачым, што на аднаго чалавека прыпадае ў сярэднім 0,75 гэктара, а на адну сялянскую гаспадарку ў сярэднім 4,64 гэктары.

Па акругах гэта велічыня мяняецца такім чынам:

| АКРУГІ | На 1 чал. ў гэктар. | На 1 гаспадар. ў гэктар. | АКРУГІ | На 1 чал. ў гэктар. | На 1 гаспадар. ў гэктар. |
|---|---|---|---|---|---|
| Мазырская | 0,93 | 11,47 | Аршанская | 0,39 | 3,62 |
| Барысаўская | 1,11 | 7,21 | Магілеўская | 0,48 | 3,95 |
| Полацкая | 0,91 | 5,02 | Калінінская | 0,41 | 2,62 |
| Бабруйская | 0,76 | 4,70 | Віцебская | 0,39 | 2,52 |
| Слуцкая | 0,69 | 3,93 | | | |
| Менская | 0,48 | 3,39 | Па ўсёй Беларусі | 0,75 | 4,64 |

Для параўнаньня пакажам, што на аднаго чалавека ў другіх краінах прыпадае лесу—

| | | | |
|---|---|---|---|
| Фінляндыя | 8,0 гэкт. | Францыя | 0,24 гэкт. |
| Швецыя | 3,9 „ | Італія | 0,13 „ |
| Паўноч.-Амэрык. штаты | 3,7 „ | Ангельшчына | 0,03 „ |
| Нямеччына | 0,24 „ | — | — — |

## Колькасьць удобнай лясной плошчы на 1 гаспадарку БССР.

(Па даных 1925 г. злажыў праф. *С. П. Мельнік*).



Толькі Фінфляндыя, Швэцыя і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя штаты вывозяць лес. Нямеччына-ж, Францыя, Італія і Ангельшчына ўвозяць да сябе лясныя матэрыялы, бо сваёй драўніны ў іх не хапае.

Малая плошча лесу, якая ў шмат якіх акругах БССР прыпадае на аднаго чалавека і на адну гаспадарку, паказвае, што насельніцтва павінна зараз-жа падумаць аб палепшаньні сваёй лясной гаспадаркі, аб доглядзе за сваім лесам, аб лесаразьвядзеньні на пустых і няўдобных землях, на незаросшых лесам лесасеках, аб пераводзе сваіх рэдкіх лясоў у густыя.

На малой плошчы нельга весьці правільную лясную гаспадарку. Больш менш правільную гаспадарку можна весьці толькі на вялікіх плошчах, пры вялікіх абшарах. Вось чаму галоўная плошча лясоў знаходзіцца пад аховай ўсёй рэспублікі. У гэтых лясох вядзецца дзяржаўная лясная гаспадарка праз лясьніцтвы.

Лясы-ж мясцовага значэньня таксама ня дзеляцца паміж сялянамі, як зямля, а перадаюцца сельскім аб'яднаньням для арганізаванага карыстаньня.

**Проф. Мельнік.**

---

# Як пасьвіць скаціну ў лесе.

**Лес—багацьце рабочых і сялян. Няўмелая паша нішчыць гэта багацьце. Ня трэба пускаць скаціну ў малады лес і на вырубкі, што пачалі абсемяняцца.**

Паміж сялянамі і лясной вартай часта бываюць спрэчкі з-за пашы скаціны ў лесе. Гэта бывае таму, што сяляне часта ня ведаюць, якую шкоду лесу прыносіць паша скаціны.

Лясныя працаўнікі зьяўляюцца абаронцамі народнага багацьця, яны забараняюць пасьвіць скаціну на некаторых вучастках лесу.

*Чым-жа скаціна шкодзіць лесу?* Раньняй вясной калі яшчэ травы ў лесе мала, скаціна зьядае пучкі дрэў, а коні і козы, апрача таго, яшчэ грызуць кару. Буйная рагатая скаціна, ходзячы па лесе, псуе карэньні дрэў, якія знаходзяцца няглыбока ў зямлі. Невялікія раны на карэньнях і галінах дрэў самі па сабе яшчэ ня так шкодны, але ў паветры заўсёды ёсьць зароднікі (споры) грыбкоў, якія выклікаюць гніль карэньняў і галін дрэў. Гэтыя зароднікі трапляюць на раны і заражаюць драўніну.Калі пасьля заражэньня рана і зажыве зьверху, то ўсё роўна гніль ня спыняецца і ў працягу ўсяго жыцьця дрэва. Вось чаму, спілаваўшы дрэва часта можна бачыць, што яно бывае гнілым у сярэдзіне, у той час, калі з надворнага боку выглядае здаровым.

Таксама шкодзіць лесу і ўтаптваньне глебы скацінай, бо да карэньняў ня можа ў поўнай меры даходзіць паветра, без чаго яны слабеюць і ўрэшце зусім гінуць.

*Дзе нельга і дзе можна пасьвіць скаціну ў лесе.* Выпас скаціны на лесасеках (месца дзе абсемяняецца лес пасьля вырубкі) прыносіць шкоду. У маладнякох, узрост якіх яшчэ не дасягнуў 25 год., пасьвіць скаціну ні ў якім разе нельга. На вучастках, якія хутка ідуць пад выруб, трэба таксама спыніць выпас скаціны. Пры гэтым, калі пад-рубку ідзе сасна, клён ці ясень, то выпас спыняецца за 3-4 гады, а калі дуб, то за 7 год.

Гэта робіцца дзеля таго, што сасна і елка даюць добры ўраджай насеньня ня кожны год, а праз 2-3 гады. За 4 гады хоць адзін год будзе ўраджайным для елкі і сасны і можна спадзявацца, што пасьля вырубкі лесасека зноў зарасьце.

Дуб дае насеньне праз 4-7 год. Затым і выпас скаціны ў ім спыняецца за 7 год, каб ён ня зьвёўся на тым месцы, дзе рос раней.

Ясень, клён і граб даюць насеньне амаль кожны год, але ўсё-ж, каб забясьпечыць усходамі тыя вучасткі, якія пойдуць пад рубку, выпас скаціны таксама трэба спыніць на іх за 4 гады.

Выпас скаціны ў лесе ня шкодны, калі яе пасецца мала. Так, на 2 дзес. у працягу лета можна пасьвіць 3 каровы, або 2 коняй, або 10-15 авечак. Самым злым ворагам лесу зьяўляецца свойская каза. Яе ў лес пускаць ня можна. Дзікія-ж козы асаблівай шкоды ня прыносяць лесу, бо іх там бывае вельмі мала. Сьвіней таксама можна пускаць у лес так, каб у працягу лета на кожныя 3 штукі іх прыпадала дзесяціна лесу.

Пры нястачы пашы скаціну можна пасьвіць у лесе і ў большай колькасьці, але толькі на такіх лясных вучастках, дзе дрэвы вырасьлі настолькі, што скаціна ня можа дастаць галін. Маладыя алешнік і сосны ня так баяцца патравы, але і тут трэба пільнавацца правіл.

У лясох, дзе вядзецца правільная гаспадарка, лес абараняюць ад скаціны звычайна плотам. Інакш скаціна маладыя лес можа пашкодзіць ці зусім зьнішчожыць.

*Калі пасьвіць скаціну ў лесе.* Раньняй вясною, калі травы яшчэ мала, то скаціна зьядае шмат пучкоў і маладых галінак ліставых парод. Загэтым вясною, пасьба скаціны ў маладых лясох вельмі шкодна.

Вясною, летам і ўвосень у часе дажджоў і зараз-жа пасьля дажджу пасьвіць скаціну шкодна нават і ў старым лесе: у гэты час псуюцца карэньні дрэў і лёгка абрываецца кара.

Зранку таксама ня трэба пасьвіць скаціну ў лесе, бо калі бывае раса, то галодная скаціна зьядае лісьце дрэў.

Увосень, калі ападаюць хворыя жалуды, у лес можна пускаць сьвіней, нават больш-чым летам. Калі-ж ападаюць сьпелыя і здаровыя жалуды, то сьвіней ужо ня пускаюць.

З усяго вынікае, што ў лесе пасьвіць скаціну можна, але толькі выбарам і ў вызначаны для гэтага час.

А. Новікаў.

---

# Як выробляць ляды (лесасеку).

**Нельга выпальваць месца з-пад лесу, бо з гэтым згарае шматгадовы перагной лесу. Лясны перагной дае высокія ўраджаі 8-16 год.**

Каму даводзілася выробляць ляды, той ведае, што гэта ня лёгка. Сяляне ў большасьці выпадкаў няўмела раскарчоўваюць плошчы з-пад лесу; пры гэтым сваёй няўмеласьцю шкодзяць глебе.

Пры вырабу лядаў звычайна робяць так: верхавіны, галіны і нагул застаўшыся лом пасьля рубкі лесу раскладваюць у невялікія кучы па ўсёй плошчы, а калі яны прасохнуць то з усіх бакоў падпальваюць

іх. Спачатку гараць галіны і сукі, затым апаўшае лісьце і нарэшце перагарае ўвесь верхні слой зямлі, багаты перагноем, які зьбіраўся тут лесам на працягу дзесяткаў і соцень год.

Чым старэйшы быў лес, тым даўжэй гарыць яго ляда, асабліва, калі тлее перагной. Тады выруб курыць некалькі дзён, пакуль ня будзе зьністожана ўсё багацьце глебы.

Робячы так, людзі забываюць самае галоўнае, што пры спальваньні галін і сукоў зьністажаецца верхні слой глебы, які складаецца з перагніўшых частак лісьця, хвоі, галін і інш. Застаецца-ж толькі нечапаная цаліна пасыпаная попелам. На выработанай такім чынам пасецы зямля хутка можа стаць пескавой глебай, ня гледзячы на тое, што на ёй засталося шмат попелу. Як вядома, не адзін попел патрэбен для жыцьця расьлін, а знача і замяніць тое дарэмнае прыроднае ўгнаеньне, якое мы спалілі на пасецы, ён ня можа.

Сяляне не разумеюць, колькі такім чынам яны нішчаць гною: абы менш было клопату і працы. На выпаленай лядзе сеюць зярно амаль у попел; пакоўзаюць крыху смыкам (барана з сучча елкі для баранаваньня лядаў) - і ўсё. Там, дзе агонь слаба праняў, падзёўбаюць крыху матыкай. На другі год ужо аруць і ворыва ідзе шмат лягчэй, бо зямля пад збожжам падапрэла. Вось гэткім парадкам мы ўсе новыя сьвежыя землі глумім, проста зьдзекуемся над імі, а пасьля толькі наракаем на дрэнную пару і на кепскія ўраджаі.

Каб скарыстаць *лясное прыроднае ўгнаеньне*, я раю такі спосаб распрацоўкі лядаў. Калі ўжо плошча передана земляробу, то перш-наперш трэба сабраць вялікія верхавіны і сукі, якія пойдуць на апал. Дробныя галінкі раскідаць па плошчы і чакаць, пакуль яны падсохнуць і асыплюцца на зямлю. Затым галіны, якія могуць перашкаджаць вырабу глебы, сабраць і зьвесьці на сенажаць, там іх спаліць і попел разсыпаць. Гэта будзе ўгнаеньнем для сенажаці. Калі будуць перашкоды звазіць галіны на сенажаць, то іх можна спаліць і на самай лядзе, але пры гэтым сачыць, каб агонь займаў як можна менш месца, а галіны складваць у вялікія кучы. Попел роўнамерна разсыпаць.

Пасьля гэтага трэба зараз-жа заараць, а дзе ня возьме плуг, то паправіць матыкай або рыдлёўкай. Трэба таксама абматыкаваць навокал пнёў. Яловыя пні лепш усяго павыварачваць, падрубіўшы тоўстыя карэньні. Карэньні елкі знаходзяцца ня глыбока ў зямлі і пасьля таго, як дрэва зсячэцца, яны хутка адміраюць. Выробленыя такім спосабам ляды першы год напэўна ня даюць такога ўраджаю, як выпаленыя, але за тое самыя лепшыя ўраджаі пачнуцца з 3-га году, калі верхні слой добра пераімяшаецца з глебай. І ў далейшым на працягу 10 год такія ляды будуць даваць без угнаеньня добрыя ўраджаі і гэтым акупяць акуратную і ўмелую іх апрацоўку. Выпаленыя-ж ляды такіх ураджаяў не даюць, бо перагной іх зьністажаецца агнём.

*Давайце разумна і эканомна скарыстаем* даны нам лесам перагной. Сяляне, *не паліце пасек!* Захоўвайце ад агня свае новыя жытніцы.

**М. Шалупенка.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Сейце каноплі на тарфяніках.

**Каноплі лепш удаюцца на тарфяніку, чым на полі. Тарфянік пад каноплі трэба ўгнойваць мінэральнымі парашкамі.**

Каноплі любяць добрую зямлю і дрэнна растуць на палёх. У Беларусі да гэтага часу каноплі часьцей сеялі на гародах і прысялібных вучастках. Тут каноплі займаюць пладародныя гародныя землі і не даюць магчымасьці пашырацца гародніцтву, а таксама перашкаджаюць пашырэньню пасеву караньплодаў. Пад караньплоды таксама трэба добрае поле, а затым на сялянскіх палёх ім няма месца. Няўдалыя-ж пасевы караньплодаў адбіваюць у гаспадара ахвоту сеяць іх далей.

Пасеў караньплодаў у сялянскіх гаспадарках павінен пачынацца на прысялібных землях, а потым, калі гаспадары пазнаюць усю карысьць ад іх і пазнаёмяцца з прыёмамі гадоўлі гэтых расьлін, то будуць сеяць іх і на полі.

Акрамя пладароднай глебы каноплі для добрага росту патрабуюць і шмат гною. Профэсар Пранішнікаў кажа, што каноплі зьядаюць шмат гною і перашкаджаюць падняцьцю ўраджаяў другіх расьлін.

Спроба Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі сеяць каноплі на полі, не дала посьпеху. На Стэбутаўскім дасьледчым полі існуе такі двухпалёвы севазварот: *каноплі па гнаі* (2.400 пуд. на дзес.)—*бульба*. Ураджаі атрымоўваюцца невялікія, к таму-ж каноплі растуць няроўнамерна: ад чаго бывае менш валакна.

Значна лепшыя вынікі дае пасеў канапель па тарфяніку. Тарфянік выяўляе сабою звычайную сенажаць з даволі добра перагніўшым торфам.

Глыбокае ўзорваньне тарфяніка было зроблена з восені. Вясною 1925 г., пасьля распрацоўкі пластоў, былі паложаны ўгнаеньні.

*Калі* давалі ў 30 проц. солі, *фосфар* у 18 проц. фосфарыту і *азот* быў унесены з гнаёвай жыжкай. Нормы мінэральных угнаеньняў былі такія: *азота* (N)—3 пуды, *фосфара* ($P_2O_5$)—6 пуд. і *калі* ($K_2O$)—3 пуды. Акрамя таго, былі дзялянкі поўнасьцю ўгноеныя гноем (2.400 пуд. на дзес.) з палавіннаю нормаю гною (1.200 пуд. на дзес.) і без угнаеньня.

На кожнае ўгнаеньне ўзята чатыры дзялянкі. Каноплі пасеялі па разьліку 7 пуд. на дзес.



Ураджаі былі такія:

| Назва ўгнаеньняў. | Ураджай у пудох на дзесяціну. | | Прыбаўка ад угнаен. ў п. на дзес. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Саломы (трасты). | Зярна. | Саломы (трасты). | Зярна. | |
| 1. Без угнаеньня . . . | 170 | 52 | — | — | Памылка вопыта па сухой масе 10,4; па зярну 4,5 |
| 2. NPK (азот, фосф. калі) | 350 | 91 | +180 | +39 | |
| 3. PK . . . . . . . | 318 | 90 | +148 | +38 | |
| 4. NK . . . . . . . | 328 | 89 | +158 | +37 | |
| 5. K. . . . . . . . | 354 | 105 | +184 | +53 | |
| 6. NPK (падв. норма) . | 375 | 104 | +205 | +52 | |
| 7. Гной 2400 п. на д. . | 359 | 103 | +189 | +51 | |
| 8. Гной 1200 „ „ „ . | 267 | 87 | + 97 | +35 | |

З табліцы відаць, што ўгнаеньні наогул давалі значнае павышэньне ўраджаяў канапель. Гэта паказвае на тое, што пад каноплі пры пасеве іх на тарфяніках можна класьці тыя ці іншыя ўгнаеньні: яны сябе аплачваюць. Даволі вялікія лічбы ўраджаяў кажуць, што пры засеве канапель прысялібныя пладародныя землі могуць быць з посьпехам заменены тарфянікамі. Вопыты паказваюць, што пры ўнясеньні патрэбнай колькасьці ўгнаеньняў ураджай канапель на тарфяніках ня будзе горшы, чым ураджай іх на гародах. Гэта дае магчымасьць перанесьці пасевы канапель на тарфянікі і такім чынам аслабаніць гароды і прысялібныя землі, якія скарыстаюцца для разьвядзеньня гародніны і караньплодаў.

Вельмі цікава ў гэтым вопыце тое, што пры пасеве канапель на тарфяніку можна гной цалком замяніць мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Па гнаі 2400 пуд. (120 вазоў) на дзес. ураджай канапель быў 359 пуд. трасты і 103 пуды зярна; поўнае-ж мінэральнае ўгнаеньне дало 350 пуд. трасты і 91 пуд. зярна (нязначнае зьніжэньне). Для ўгнаеньня тарфянікаў трэба скарыстоўваць недарагія фосфарныя і калійныя ўгнаеньні. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на калійныя ўгнаеньні, якія на бедных каліем тарфяністых глебах заўсёды павышаюць ураджаі.

У Нямеччыне ўжо даўно з вялікім посьпехам сеюць каноплі на тарфяніках. Трэба, каб і беларускія гаспадары прыняліся за праверку вопыту Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі засевам канапель на тарфяніках з ужываньнем мінэральных угнаеньняў.

Вырашэньне гэтага пытаньня будзе мець вялікае экономічнае значэньне.

**А. Берзін.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Каноплі і фасоля на балоце.

*(З практыкі Забалоцкай балотнай дасьледчай гаспадаркі)*

**Пасеў на балоце канапель даў чыстага прыбытку 247 р. на дзесяціну. Прыбытак ад фасолі — 114 р. Коноплі і фасоля — дзьве балотныя расьліны.**

У гэтым артыкуле я апісваю дзьве расьліны, якія рэдка сяяліся на балотах,—гэта коноплі і фасоля.

*Каноплі.* Вучастак тарфяніка плошчаю 500 кв. сажн., першы раз узараны з восені 1924 г., а вясной 1925 г. добра ўгноены (5 п. $K_2O$+3 п. $P_2O_5$) і 18 траўня засеяны мясцовымі сялянскімі каноплямі. Пры раскідной сяўбе насеньня пашло 1 п. 15 ф.

Спачатку каноплі расьлі вельмі добра і заглушалі сарнякі. Да паловы жніўня рост быў паміж $1^1/_3$-2 мэтр. Каб атрымаць насеньне, каноплі прыбіралі з поля ў палове верасьня. Далей адсеклі галоўкі і малацілі іх на таку. Адсартаванага зярна было крыху больш 16 пуд., што на дзес. дае 80 пуд.

Карэньні таксама адсякаліся. Далей ўжо павязаныя ў пучкі сьцяблы мачылі ў канаве. Дзякуючы халоднай пагодзе, мачэньне цягнулася 3 тыдні.

Для таго, каб даведацца колькі выходзіць пянькі, узялі некалькі пробных пучкоў, высушылі іх, апрацавалі ручным спосабам і падлічылі. Вышла, што дзесяціна дае 32-35 пуд. доўгай, моцнай і сьветлай пяньк.

Такім чынам, мы маем высокі ўраджай канапель і сярэдні выхад пяньк.

| Даход | | Расход | |
|---|---|---|---|
| 80 п. канапель (насеньня) па . . . 1 р. 50 к. | —120 р. | Апрацоўка поля | 12 р. |
| 35 п. пяньк па . . 8 „ — | —280 „ | Насеньне і ўгнаеньне . . . | 50 „ |
| Усяго . . . | 400 р. | Прыборка і малацьба . . . | 32 „ |
| | | Мачэньне і трапаньне . . . | 40 „ |
| | | Розныя страты, %% на капітал і рамонт | 19 „ |
| | | Усяго . | 153 р. |

*Чысты прыбытак з 1 дзес. 247 руб.*

Зусім зразумела, што ў сялянскай гаспадарцы чысты даход павышаецца, бо тут уся праца выпаўняецца сваёй сям'ёй, а організацыйныя расходы не такія вялікія, як ва ўмовах дасьледчай гаспадаркі.

Такім чынам, мы можам сказаць, што на *нізінных балотах* ня *толькі можна*, а *нават і сходна сеяць каноплі.*

*Фасоля.* Вучастак пад фасоляй узорваўся ўсяго другі год. Выраблялася і ўгнойвалася поле таксама, як і пад каноплі. Па гранках 26 траўня высеяна рукамі 1 пуд насеньня мясцовай сялянскай кустовай фасолі.

Догляд за ёй быў такі: раз палолі і аправілі гранкі асыпнікам. У працягу лета фасоля не хварэла.

У пачатку верасьня фасоля была сабрана, высушана на паветры і пасьля абмалочана на таку. З плошчы ў 400 кв. саж. фасоля дала 30 пуд., *што на дзес. складае 180 пуд.* Праўда, гэта аднагадовы ўраджай, але такі высокі, што прымушае зьвярнуць увагу і на сорт, і на самую расьліну, аб якой нідзе ў спэцыяльна балотнай літаратуры ня пішацца.

Зрабіўшы для фасолі такі разьлік, як для канапель, атрымаем

| Даход | Расход | |
|---|---|---|
| 180 п. зярнапа . . 1 р. 60 к.—288 р. | Апрацоўка і пасеў . . . . | 17 р. |
| | Угнаеньне і насеньне . . . | 50 „ |
| | Догляд . . . | 12 „ |
| | Прыборка і абмалот . . . | 18 „ |
| | Розныя выдаткі, %% на капітал і рамонт . | 19 „ |
| | Усяго . | 114 р. |

Чысты прыбытак з дзес.—174 руб.

Як відаць, ураджай фасолі высокі; догляд, прыборка і абмалот—просты, а між тым попыт на яе значны і забясьпечвае лёгкі збыт.

**Даход канапель і фасолі на балоце з 1 дзес.**




Каноплі. Фасоля.

Наогул мы бачым, што наогульная і чыстая даходнасьць ад пасеву фасолі на балоце высокая. Апрача таго, як асыпная расьліна, фасоля дае магчымасьць барацьбы з сарнякамі, а гэта на балоце мае вялікае значэньне. Знача і гэта расьліна, якая з усіх бакоў адменна ад канапель, з тэхнічнага боку магчыма, а з экономічнага — сходна на балоце.

Прыклад апісаных дзьвёх расьлін паказвае на магчымасьць усебаковага скарыстаньня балот, не абмяжоўваючыся толькі здабываньнем корму. Зразумела, што пры гэтым трэба казаць і аб асушцы балот.

Але-ж усё гэта сьведчыць аб вялікім значэньні нашага балотнага фонду, які можа абярнуцца і ў кармовую плошчу, гледзячы што схадней.

А. Шохар.

# Цікавая расьліна сэрадэля.

**Сэрадэля—канюшына пяскоў. Яна дае другі ўраджай з аднаго поля. Сена сэрадэлі—лепшы корм. Зялёная трава сэрадэлі—добры выган або зялёнае ўгнаеньне.**

Сэрадэля вельмі цікавая і карысная расьліна. Яна можа сеяцца на траву і дае добры ўраджай найлепшага сена. Сэрадэля не патрабуе асобнага месца ў полі, а падсяваецца да азімых ці яравых расьлін. Усходы яе растуць спачатку памалу і зусім не перашкаджаюць прыкрываючым яе расьлінам, але пасьля прыборкі жыта ці ярыны, сэрадэля пачынае расьці шпарка і да восені дае добры ўраджай.

Досьледы Новазыбкаўскай с.-г. дасьледчай станцыі паказалі, што сэрадэля на слабапагнойным пяску дае 1.200 п. травы, або 200 п. сена. Сена з сэрадэлі смачнае і добрае, як і канюшына і ахвотна зьядаецца жывёлай. Новазыбкаўская вопытная станцыя вылічыла, што пуд сена сэрадэлі каштуе 6 кап. пры купленым насеньні; але насеньне лёгка можна атрымаць у сваёй гаспадарцы, тады кошт сена яшчэ зьменшыцца. Нашы гаспадары павінны ацаніць і шырока скарыстаць сэрадэлю.

*Сэрадэля, як зялёнае ўгнаеньне.* Калі пасьля прыборкі збожжа сэрадэлю не касіць, то яе можна заараць, як угнаеньне. Сэрадэля у роўнай колькасьці з гноем мае аднолькавы ўплыў на ўраджай. Па вопытах Новазыбкаўскай станцыі дзес. бульбы пасьля сэрадэлі і гною дала 1.500 п., па адным гнаі 1.200 п. Сэрадэля дае менш зялёнай масы, чым лубін, але ўгнаеньне з яе дзешавей лубінавага. Таксама павялічваюць ураджай і адны карэньні сэрадэлі. Вопыты паказалі, што адны карэньні павялічваюць ураджай бульбы на 200 п. з дзес.

*Сэрадэля, як паша.* Сэрадэля можа падсявацца ня толькі для сена ці зялёнага ўгнаеньня: яе можна падсяваць да азімага і яравога пасеву, каб пасьля скарыстаць для пашы. Дзякуючы сэрадэлі можна палепшыць пашу, а таксама палепшыць глебу.

*Дзе сеюць сэрадэлю.* Сэрадэля ўдаецца на бедных пескавых глебах, але лепшай глебай зьяўляецца даволі пагнойнае пескавое і супескавое поле. На сухіх пяскох бяз гною сэрадэля расьце дрэнна. Вельмі шкодна для яе бывае засуха. На глыбокім пяску ўгноеным першы раз пад жыта, да якога была падсеяна сэрадэля, Новазыбкаўская станцыя атрымала зялёнай травы сэрадэлі з дзес.

| | |
|---|---|
| без угнаеньня . . . . | 260 пуд. |
| гной 1800 пуд. . . . . | 702 „ |
| гной 3600 „ . . . . | 1056 „ |

Пад уплывам гною сэрадэля павялічыла ўраджай у 3-4 разы на глыбокім пульхным пяску. З вынікаў Новазыбкаўскай станцыі відаць, што сэрадэлю без угнаеньня можна сеяць толькі на шчыльных пескавых глебах.

Сэрадэля любіць пескавыя нізкія месцы, але каб грунтовая вада пры гэтым была ня вельмі блізка ад паверху. У такіх мясцох сэрадэля вельмі добра расьце. Апрача глебы трэба яшчэ памятаць наступнае:

1) На пасеў браць толькі добрае насеньне.

2) Старацца, каб спачатку росту на карэньнях сэрадэлі зьявілася магчыма больш клубянькоў.

3) Сваечасова зрабіць пасеў.

*Сэрадэля і бактэрыі (мікробы).* Пры першых пасевах сэрадэлі на яе карэньнях павінны зьявіцца бактэрыі, якія ўтвараюць там клубянькі. Бяз іх сэрадэля расьце дрэнна, у два-тры разы горш. У такіх выпадках неабходна штучна заражаць глебу бактэрыямі. Для гэтага звычайна бяруць 100-150 пуд. зямлі з верхняга слою глебы, дзе расла сэраделя, і раскідваюць увосень ці вясной па полю, дзе хочуць сеяць сэрадэлю. Другі спосаб заражэньня глебы, гэта клубянькамі, якія бяруць з карэньняў сэрадэлі. Зімой іх хаваюць у зямлі, а вясной мнуць, мяшаюць з вадой і зямлёй і абмазваюць пасеўнае насеньне.

*Пасеў сэрадэлі пад жыта.* Сэрадэля ў жыта падсяваецца зараз-жа, як сойдзе сьнег, бо яна веснавых маразоў не баіцца, а патрабуе шмат вільгаці для прарастаньня насеньня.

На пескавой глебе цяжка вызначыць пэўны час пасеву. Калі глеба падсохне, то неабходна забаранаваць высеянае насеньне лёгкай бараной у 2-3 сьляды. Калі-ж глеба вільготная, то можна і не баранаваць.

Насеньня сэрадэлі высяваецца на 1 дзес. 3-4 пуды. Сеяць трэба роўнамерна, лепш крыж-на-крыж, тады бывае раўнейшы травастой.

Вельмі добрым выходзіць і пасеў сяўнікам. Сяўнік ня шкодзіць жыту і разам з тым дае добрыя ўмовы для росту сэрадэлі.

Агрон. **Уліцін.**

---

# Карыстайцеся попелам, як угнаеньнем.

**Хто зьбірае попел, таму ня трэба купляць калійнай солі. Попел— лепшае ўгнаеньне для сенажаці. Попел павялічвае ўраджай бульбы і караньплодаў.**

Драўляны попел на 100 ф. мае 6-12 ф. *калія*, 3—4 фун. *фосфара* і 30—35 ф. *вапны*. Дзеля гэтага попел можна скарыстаць як угнаеньне, на ўсякіх глебах і асабліва на балоцістых і кіслых падзолістых, якія бедны на калі.

Попел сваім шчолакам зьнішчае кіслоты глебы. На Беларусі такіх глеб большасьць, дзеля чаго на попел і трэба зьвярнуць увагу. Ня менш важнае значэньне мае попел для ўгнаеньня сенажаці. На дзес. высяваецца попелу ад 30—50 пуд. Гэтым даецца 3—5 пуд. калія, 1-$1^1/_2$ пуд. фосфару і 10—18 пуд. вапны. Попел павялічвае ня толькі ўраджай,але палепшвае і якасьць сена: зьяўляецца больш бабовых (канюшына) і салодкіх траў замест асакі.

На сенажаць попел высяваюць раньняй вясной, як толькі сойдзе сьнег, у ціхую пагоду і зараз-жа барануюць жалезнымі баронамі (лугавымі). Як угнаеньне, попел можна скарыстаць пад азімае (пшаніцу) і яравое збожжа, таксама пад бульбу, буракі, бручку і інш. Пад гарод, лён і сад, калі няма патрэбнага гною, то гной можна замяняць попелам. Перад заворваньнем гной пасыпаюць попелам. Ад супольнага ўжываньня гною з попелам глеба атрымоўвае ўсё патрэбнае для расьлін. Ад гною—азот, часткаю калі і фосфар; ад попелу—калі, фосфар і вапну.

Пад уплывам вапны гной хутчэй раскладаецца. Чысты попел ня варта пакідаць на паверхні. Калі попел не забаранаваны, то шчолак разьядае „цэмэнт" глебавых частак і пасьля дажджу ўтвараецца ска-

рынка. Праз яе ня могуць прабіцца маладыя расьліны, глеба ня мае сьвежага паветра, ад гэтага ўраджай бывае горшы.

Пад бульбу попел перамешваюць з зямлёй, пасыпаюць у баразьне і заворваюць разам з бульбай. Перад тым, як асыпаць бульбу, карысна пад кожны куст падсыпаць жменю попелу; таксама ад попелу павялічваюць ураджай і караньплоды.

Лён ад угнаеньня попелам дае вельмі добрае валакно.

Для саду бяруць попел у колькасьці ад 30—60 п. на дзесяціну і заворваюць разам з гноем на 2-3 вярш. Калі гною няма, то можна попел браць з фосфарытам (30—50 пуд. на дзес.), ці тамасшлакам перамяшаць іх перад высевам.

У садзе попел разам з фосфарытам і тамасшлакам дапамагае высьпяваньню дравясіны, пладанашэньню і закладваньню почак на наступны год. Попел таксама мае значэньне і для паўднёвых глеб. Як багаты на калі і вапну, попел там узмацняе азоцістае ўгнаеньне для расьлін, ператвараючы органічны азот у даступную для расьлін форму.

Попел павялічвае ўраджай у працягу 1-2 г. Няхай ні адзін фунт попелу не прападае дарма! Кожны сьвядомы селянін павінен тлумачыць сваім суседзям, як скарыстаць попел на ўгнаеньне.

Агроном Л. Калер.

---

# Трэба скарыстоўваць „начное золата“, як угнаеньне.

**Кожны чалавек дае 30 пуд. найлепшага ўгнаеньня. „Начное золата“ трэба мяшаць з сухім торфам. 1200 п. такога ўгнаеньня заменяць 2400 пудоў гною.**

Усе народы прымяняюць у сельскай гаспадарцы каштоўнае ўгнаеньне „начнога золата“. Французы кажуць, што па чыстаце адхожых месцаў можна судзіць аб вышыні культуры таго ці іншага народу. Вазьмеце любы куток нашай краіны: вёску, сяло, мястэчка, саўхоз, горад—усюды вуліцы, плошчы, тратуары, двары забруджаны розным сьмецьцем. У лепшым выпадку сьмецьце і „начное золата“ у нас звозіцца на берагі рэчак, у равы і г. д. А вось у Эўропе кожная сялянская гаспадарка мае сваю ўборную, у гарадох ёсьць спэцыяльныя вучасткі арашэньня, пудрэтныя заводы. Адхожыя месцы там заўсёды бываюць чыстыя; уся ўвага зьвернута на тое, каб гэта ўгнаеньне („начное золата“) вывозілася толькі на поле, сенажаці, сады і гароды.

Будзем спадзявацца, што і ў нас гэта пытаньне будзе пастаўлена паэўропэйскі. А што з гэтага выйдзе? Перш усяго, ураджай збожжа падымаецца з 35 пуд. да 70—на 100 проц. Чатыры мільёны насельніцтва могуць даць 120 мільёнаў пуд. „начнога золата“. Калі гэту колькасьць зьмяшаць з сухім торфам (2 пуды торфу на 1 п. „начнога золата“), то будзем мець 360 міл. пуд. вельмі добрага ўгнаеньня, якім можна ўгноіць 300 тыс. дзес. (кладучы яго на 1 дзес. 1.200 пуд.).

Ад гэтага ўгнаеньня ўраджай павысіцца на 35 пуд. з дзес., а ўсяго на 9 міл. 960 тысяч пудоў!

Гэта лічба настолькі вялікая, што яна патрабуе выданьня асобнага дэкрэту аб скарыстаньні „начнога золата“.

Г. Шасьціткa.

---

# Карысьць мінэральных угнаеньняў пад авёс.

**На добра пагнойным полі мінэральныя ўгнаеньні могуць падвоіць ураджаі аўса.**

Досьлед быў пастаўлены ў 1925 г. у працоўнай земляробскай арцелі „Ніва“ (Рагачоўскі раён, Бабруйшчына).

Супескавы вучастак поля (192 кв. саж.) быў узараны назяб з восені 1924 г. Вясною 1925 г. яго яшчэ раз узаралі на 12-16 см. ($3^{1}/_{2}$-4 вяршкі), высеялі мінэральнае ўгнаеньне і пасеялі авёс (29 красавіка). Поле было даволі пагнойнае. Усяго на вучастку было 8 дзялянак (па 24 кв. саж. кожная), на якіх былі высеяны тамасшлак, калійная соль і салетра. Угнаеньні высеялі па аднаму, па два і па тры разам.

Увосень падлічылі ўраджай на кожнай дзялянцы паасобку. Перш зважылі ўраджай з саломаю, а потым адно зярно. Падлік ўраджаю пасьля пералічэньня яго на дзесяціну паказаны ў табліцы.

| Дзял. | Якое ўгнаеньне | Угнаеньне на 1 дзес. у пудох | УРАДЖАЙ | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна | Саломы |
| 1 | Контроль | — | 70 | 50 |
| 2 | Тамасшлак | 24 | 110 | 82½ |
| 3 | Калійная соль | 15 | 120 | 135 |
| 4 | Салетра | 7½ | 110 | 82½ |
| 5 | Тамасшлак і Калійная соль | 24<br>15 | 112½ | 100 |
| 6 | Тамасшлак і салетра | 24<br>7½ | 142½ | 157½ |
| 7 | Калійная соль і салетра | 15<br>7½ | 165 | 82½ |
| 8 | Тамасшлак | 24 | — | — |
| 9 | Калійная соль, салетра і тамасшлак | 15<br>7½ | 187½ | 131½ |

Як бачым, тамасшлак і салетра, калі іх клалі па аднаму, павялічалі ўраджай толькі на палову.

Калі-ж салетру бралі з тамасшлакам ці калійнаю сольлю, то ўраджай дасягаў 142—165 п. (падвайваўся). Гл. мал. стар. 17.

Яшчэ лепшы ўплыў на ўраджай зрабіла мінэральнае ўгнаеньне там, дзе былі ўнесены ўсе тры парашкі разам (фосфар, калі і азот).

Такім чынам, на даволі пагнойным полі мінэральныя ўгнаеньні значна павышаюць (падвайваюць) ураджай.

**Ів. Белакурскі.**

Рагачоўскі раён.

## Павышэньне ўраджаю аўса ад мінэральных угнаеньняў.






## Залежнасьць ураджаю аўса ад часу пасева.



# Калі лепш сеяць ярыну.

**Для кожнай расьліны ёсьць свой срок пасеву. Лепш выбіраць срок пасеву прымаючы пад увагу асаблівасьці расьліны адносна вільгаці, цяплыні глебы, часу зьяўленьня шкоднікаў і г. д.**

Ад выбару часу засеву залежыць і ўраджай. Часта с.-г. практыка ў выбары часу пасеву бывае памылковай, што дае ўбытак гаспадарцы. Напрыклад, гаспадары, трымаючыся прыслоўя „сей авёс у гразь, дык будзеш князь". часта маюць паніжаны ўраджай. Больш асьцярожныя гаспадары ў выбары часу засеву карыстаюцца прыметамі і зьявішчамі прыроды.

Але трэба сказаць, што ўсе гэтыя прыметы не заўсёды добра прыстасаваны адносна выбару часу засеву, бо тут ня прымаюцца пад увагу патрэбы расьлін. Трэба выбіраць такі час пасеву, які-б найлепш адказваў умовам росту расьліны (асабліва ў пачатку). Вось чаму галоўную ўвагу і трэба зьвярнуць на прыроду самой расьліны, яе патрэбы і асаблівасьці і ўжо згодна з гэтым выбіраць час засеву.

Аднэй з галоўных патрэб для росту расьлін зьяўляецца вільгаць. Найлепшае разьвіцьцё расьлін бывае пры вільготнасьці глебы ад 15—20 проц. Пры раньніх пасевах ня трэба баяцца нястачы вільгаці, а трэба зьвярнуць увагу на тое, каб ня было лішку вільгаці, бо гэта таксама шкодна для расьліны. Лішак вільгаці пры раньніх пасевах зьніжае цяплыню глебы і перашкаджае праходу паветра ў зямлю, ад чаго пасевы горш растуць. Таксама вільготную глебу трудна вырабляць і пасьля засеву такое поле робіцца цьвёрдым, туды ня можа праходзіць паветра. Поле прыходзіцца мелка пераворваць.

Разгледзім яшчэ адну патрэбу расьлін—гэта цяплыню. Наколькі да вільгаці большасьць расьлін маюць аднолькавыя запатрэбаваньні, настолькі да цяплыні розныя расьліны адносяцца па рознаму.

Прывядзем табліцу, з якой можна бачыць, якія расьліны і пры якой цяплыні могуць прарастаць і якая цяплыня лічыцца найлепшай для галоўных расьлін.

| Расьліны | Можа прарастаць | Можа вытрымаць | Найлепшая цяплыня | Расьліны | Можа прарастаць | Можа вытрымаць | Найлепшая цяплыня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . | 1° | 30° | 25° | Гарох . | 1 | 35 | 30 |
| Пшаніца . . | 3 | 30 | 25 | Лубін . . . | 4 | 37 | 28 |
| Ячмень . . | 3 | 28 | 20 | Лён . . . | 2 | 30 | 25 |
| Авёс . . | 4 | 30 | 25 | Буракі . . . | 4 | 28 | 25 |
| Выка . . | 1 | 35 | 30 | Кан. чырвон. . | 1 | 37 | 30 |
| Фасоля . . | 10 | 37 | 32 | Цімафейка . | 3 | 30 | 26 |

Як бачым з гэтай табліцы, прарастаньне можа быць і пры нізкай тэмпэратуры, але трэба адзначыць, што чым вышэй цяплыня, тым пра-

растаньне будзе хутчэй; гэта-ж праверыў і на вопыце аўстрыяцкі вучоны Губэрлянд. З Гэтага мы бачым, што раньняй вясной сеяць дрэнна, але гаспадары усё-ж такі часта стаяць за раньнія пасевы, бо далей можа быць няўпраўка.

Яшчэ ў 70-х гадох мінулага стагодзьдзя вучоны Белаблоцкі правяраў гэта пытаньне. У яго авёс, які рос пры цяплыні глебы 10° даў лепшы ўраджай, чым пры 20°. Проф. І А. Сьцебут тлумачыць такое зьявішча тым, што нізкая тэмпэратура дапамагае ўтварэньню больш моцных і густых карэньняў.

У працах А. П. Тольскага і проф. П. С. Касовіча мы маем цікавы досьлед з аўсом пры рознай цяплыні (I. ад 5—10°; II ад 8 -17° і III. ад 25—30°). Чым вышэй была цяплыня, тым лепш рос авёс, але вага сухога карэньня I групы расьлін у час кушчэньня была ў два разы большай, чым II і ў 10 раз большай, чым III-й. Гэты досьлед паказвае, што нізкая цяплыня затрымоўвае разьвіцьцё аўса і дапамагае разьвіцьцю карэньняў. Але ўсё-ж пры нізкай тэмпэратуры зьніжаецца ўсходжасьць (рэдкія ўсходы). Аднак, гаспадары, ведаючы гэта, каб палегчыць палявую працу на далей, часта сеюць раньняй вясной умысна густым пасевам і трацяць на гэта лішняе насеньне.

Такім чынам, калі-б ня было лішку вільгаці і замаразкаў, то можна было-б чакаць зусім правільнай залежнасьці паміж часам пасеву і ўраджайнасьцю яравых расьлін. Уютненскае дасьледчае поле (на лясным суглінку Курскай губ.) пры пасевах аўса ў розныя тэрміны 1902 і 1903 г. атрымала такі вынік (гл. таб. і мал. стар. 17).

| Гады | Ураджай ад пасеву | 12/IV | 16/IV | 21/IV | 26/IV | 1/V | 6/V | 11/V | 16/V | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1902 г. | Зярна ў пудох | 134 | 120 | 105 | 110 | 110 | 115 | 95 | 92 | |
| „ | Саломы ў „ | 317 | 333 | 332 | 311 | 294 | 248 | 249 | 216 | |
| 1903 г. | Зярна ў „ | 107 | 105 | 99 | 71 | 74 | 59 | 47 | 31 | |
| „ | Саломы ў „ | 215 | 199 | 202 | 195 | 207 | 211 | 198 | 261 | |

Разглядаючы прыведзеныя лічбы можна заўважыць, што даныя 1902 г. з самага пачатку паступова зьніжаюцца у той час, як у 1903 г. гэта зьніжэньне асабліва прыметна (напрыклад 99—71; 47—31). Тлумачэньне гэтаму можна знайсьці ня толькі ў залежнасьці ад прыродных умоў, але і ў зьяўленьні к гэтаму часу розных шкоднікаў. Гэта вельмі важнае зьявішча, на якое заусёды трэба зьвяртаць увагу. У нас, напрыклад, сярэднія пасевы лёну, ячменю і інш. расьлін часта пападаюць якраз пад той час, калі зьяўляюцца блохі. Гаспадары, якія жадаюць забясьпечыць хоць частку сваіх пасеваў, сеюць у некалькі тэрмінаў, але тыя расьліны, якія ў першы пэрыод росту мелі нормальныя ўмовы, добра растуць і ў далейшым не баяцца розных неспагадных зьявішч.

Такім чынам, выбар часу пасеву залежыць ад прыроды расьліны і яе асаблівасьцяй. Выбар тэрміну пасеву павінен адпавядаць патрэбам расьлін у вільгаці, цяплыні глебы і паветра і інш. Толькі такі спасаб забясьпечыць нормальнае разьвіцьцё расьлін і іх ураджайнасьць.

**А. Савельеў.**

(Горкі, с-г. Акадэмія)



# Сейце ачышчаным насеньнем.

**Сартаванае насеньне дало ўраджай 109 п. на дзес., а несартаванае 69 п. Трэба сеяць толькі чыстым насеньнем.**

Зіма ўжо прышла к канцу, а шмат сялян яшчэ і не падумалі аб тым, якім насеньнем прыходзіцца ім сеяць сваё поле. Насеньне большай часткі гаспадароў мае вельмі малую ўсходжасьць, шмат усякага сьмецьця і зярнят сорных расьлін. Высеяўшы такое насеньне, зьбярэш кепскі ўраджай. Ня дарма-ж ёсьць прыслоўе: „Што пасееш, то і пажнеш“.

Савецкая ўлада ставіць сабе мэтай падняць сельскую гаспадарку. Дзеля гэтага яна трымае агрономаў, дапамагае працы с. г. курсаў, гурткоў і г. д., дзе селянін можа атрымаць веды па сельскай гаспадарцы. Але ёсьць сяляне, якія ня цікавяцца ведамі па сельскай гаспадарцы і засяваюць сваё поле несартаваным збожжам. Для ачысткі насеньня ёсьць агропункты, дзе селянін можа адсартаваць сваё збожжа




Несартаванае насеньне. Сартаванае насеньне.

ад сарнін і мець ураджай у паўтара разы большы. Акрамя таго, карысна сеяць радковым сяўнікам. Скажу аб сваёй практыцы. У 1925 годзе я ўзяў два аднолькавыя вучасткі па 800 кв. саж. На адным было пасеяна 5 пуд. радковым сяўнікам і чыстым насеньнем. Сабрана тут $6^1/_2$ коп і намалочана 33 пуды. На другім вучастку пасеяна было 5 пуд. аўса радковым сяўнікам, але несартаваным насеньнем. Сабрана 5 коп і намалочана 23 пуды. Абодвы кавалкі былі аднолькава выраблены і ўгноены. Кожны кавалак поля быў па 800 кв. саж. Такім чынам, сартаванае насеньне з дзес. дало 109 пуд., а несартаванае 69 п. Сяляне, сартуйце сваё насеньне і сейце толькі сартаваным насеньнем. Будуйце сваю гаспадарку на новы лад. **Сел. У. Карнейчык.**

---

# Сейце больш бульбы.

**Бульба дае тры каласы замест аднаго. Бульба ідзе на корм скаціне і на выраб крухмалу. Бульбу трэба сеяць на добрай зямлі і ўгнойваць яе попелам. Садзіць трэба цэлымі бульбінамі.**

Бульба сеецца ў кожнай гаспадарцы, але часамі так мала, што яе ледзь хапае на пражыцьцё; часта здараецца, што к вясьне яе зусім не стае. Між тым бульба заслугоўвае ўвагі. Яна добра ўдаецца на пяскох і дае ў мяне ад 900 да 1300 пуд. з дзес. Цяпер-жа бульбы шмат будзе ісьці і на крухмальні.

Бульба ня любіць цяжкае і вільготнае глебы. Самым лепшым месцам для яе будзе высакаватая супясь. На нізкіх месцах бульба часта губляе маладое бацьвіньне і лісьце ад начных туманаў, а гэта шкодна адбіваецца на разьвіцьці бульбін.

*Падрыхтоўка бульбы* да пасеву зьяўляецца вельмі важнай. Добра, калі насенная бульба зімуе ў склепе ці іншым падобным памяшчэньні. Тады яна рана чуе падыход вясны і ўжо з пачатку другое паловы зімы пачынае пускаць расткі.

Сьвежае ўгнаеньне ні ў якім разе ня можна класьці пад бульбу. Ад гэтага бульба бывае каросьлівай, а часамі і загнівае. Лепш за усё класьці гной пад расьліны за год да пасадкі бульбы. Бульбу-ж угнойваць можна попелам і вапнай, па жменьцы на кожную пасаджаную бульбіну; угнаеньне добра перамешваць з зямлёю.

*Час пасадкі* таксама мае вялікае значэньне. Як вядома, праросшая бульба становіцца мяккай, вялай. Калі такую бульбу пасадзіць рана ў халодную зямлю, то яна спыняе рост, робіцца цьвёрдаю. Далей, пры надыходзе цяплыні яна памалу расьце і значна адстане ад высаджанай пазьней. Сьпяшацца з пасадкаю бульбы ня варта, а трэба дачакаць цёплае пагоды, калі добра ўгрэецца глеба.

*Вырабляць зямлю* пад бульбу трэба вельмі добра. Першае ворыва лепш рабіць з восені. Тады зямля ня так баіцца сухменю і бывае чысьцейшай ад сарнякоў. Сарнякі-ж вельмі шкодны для бульбы, з імі трэба змагацца. Вясною вучастак пад бульбу барануецца і гэтым канчаецца апрацоўка да пасадкі.

Кепска робяць тыя гаспадары, якія рэжуць насенную бульбу. Дзякуючы гэтаму ніколі ня будзе добры ўраджай. Я сею цэлую бульбу і зьбіраю з дзесяціны 1400 пуд. Сеяў я і рэзаную, але з дзесяціны зьбіраў толькі 950 пуд. пры аднолькавых іншых умовах. Вось чаму ня трэба скупіцца на насеньне. Каб упэўніцца ў гэтым, кожны можа пасадзіць на адным вучастку два радкі цэлае бульбы і два рэзанае. Выбіраючы-ж бульбу, можна зважыць іх паасобна і выгада ад спосабаў пасадкі бульбы для кожнага стане яснай.

*Садзіць бульбу* трэба не па дне баразны, а з боку разоры, дзе зямля пульхная. Ад гэтага ўраджай таксама павялічыцца. Праз пару тыдняў пасьля пасадкі бульбы зямля абсядзе, а часам можа ўтварыцца і скарынка. Тады трэба поле паскарадзіць. Гэтым мы ўспульхнім глебу. Спусьціўшы пасьля таго тыдні паўтара, калі бульба падымецца на 2-3 вярш., можна яе асыпаць і палоць. Трэба ведаць, што асыпаньне і баранаваньне бульбы робіцца ў сухую пагоду. Прысыпаныя расьліны трэба падняць і абгарнуць рукамі. Праз $1^1/_2$-3 тыдні спаўняецца другое баранаваньне, а на глiністай і цяжкай зямлі і трэці раз.

Падтрымоўваючы пульхнасьць глебы ў час росту бульбы, мы дапамагаем доступу паветра, цяплыні і вільгаці ў глебе. Акрамя таго, для добрага ўраджаю бульбы патрэбна добрая глеба з пэўнай колькасьцю перагною, добрая пагода і догляд у часе росту, а таксама і сорт бульбы.

Сел. А. Карнейчык.

(Сарачынава, Пухавіцкі раён).

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Паглыбленьне працы сялян-культурнікаў і організацыя сялян-дасьледчыкаў.

У „Плугу“ № 3 (ст. 15—17) ужо пісалася, што сяляне-культурнікі ды і ўсе сьвядомыя гаспадары не павінны абмяжоўваць сваю працу звычайным палепшаньнем гаспадаркі. Тыя разнастайныя ўмовы, у якіх знаходзіцца наша сельская гаспадарка, яшчэ ня вывучаны і шмат практычных мерапрыемстваў, як селянін, так і агроном часта ўводзяць гадаючы. А каб гэтага ня было, кожны такі практычны крок патрэбна перш праверыць і вывучыць. Праверкаю або спробаю новага і павінны ў першую чаргу заняцца больш сьвядомыя ў сельскай гаспадарцы сяляне і сяляне-культурнікі. Такім чынам, далей будзе падстава, каб стварыць цэлы шэраг сялян-дасьледчыкаў.

Сяляне-дасьледчыкі толькі ў нас на Беларусі—справа новая. У РСФСР і на Украіне яны ўжо з'організаваны ў так званы „Інстытут сялян-дасьледчыкаў“. Там гэтыя культурныя гаспадары вырасьлі з сялян-культурнікаў, а ў нас, гэта справа (організацыя) толькі пачынаецца, хаця працы сялян-дасьледчыкаў ёсьць. Бяда, што аб гэтых працах мала хто ведае. Толькі ў апошнія месяцы ў рэдакцыю часопісі „Плуг“ і рэдакцыі газэт пачынаюць пасылацца матэрыялы сялян, як вынік іх практыкі і вынік даволі выразнага досьледу.

На зьезьдзе селькораў „Беларускай Вёскі“ [1]) таксама выявілася вельмі цікавае зьявішча, што большасьць с.-г. дапісчыкаў газэты і сялян дапісчыкаў „Плуга“ зьяўляюцца перадавымі гаспадарамі з дасьледчым ухілам. Тыя ці іншыя спрактыкаваньні ў гаспадарцы вельмі часта зьяўляюцца для іх лепшымі тэмамі артыкулаў.

Усё гэта прымусіла рэдакцыю часопісі „Плуг“ з № 3 адчыніць аддзел „Сялянскі досьлед“ і даць больш шырокае выяўленьне сялянскай дасьледчай думцы [2]).

Цяпер некалькі слоў скажу аб самой мэтодзе пастаноўкі сялянскіх досьледаў.

1) Досьлед лепш закладваць пры бліжэйшым удзеле агронома, але ўсе працы і вучот павінен спаўняць сам селянін. Досьлед можна закладваць у любой зьмене севазвароту, абы поле мела аднолькавую глебу і схіл (лепш на зусім роўным полі).

2) Усе дзялянкі досьледу павінны быць роўнымі па плошчы (лепш 40 або 70 кв. сажн., а вучотная плошча 30 ці 60 кв. сажн.).

Кожны досьлед можа мець і паўторныя дзялянкі (*II* і *III* сэрыі).

3) Разьбіўка на дзялянкі спаўняецца перад угнаеньнем поля і пасевам насеньня. Насеньне трэба мець аднасортнае. Уся схэма вопыта зарысоўваецца на паперы, а дзялянкі нумаруюцца.

---

[1]) 23—25 сакавіка 1926 г.

[2]) Нажаль, рэдакцыя ня мае мажлівасьці выдрукаваць усе сялянскія матэрыялы.

4) Выраб поля спаўняецца аднолькава і ў адзін дзень. Угнаеньне кладзецца па вазе (лепш перамяшаўшы з пяском) і па разьліку на дзесяціну.

Пасеў ці пасадка спаўняюцца аднолькавым спосабам. Догляд патрэбен сваечасовы і аднолькавы.

5) Тэрмін працы, нормы высеву, сарты і г. д. запісваюцца ў ведамасьць у момант самай працы.

6) Трэба весьці і назіраньні за сваім досьледам. Патрэбна запісваць, напрыклад, калі зьявіліся ўсходы (першыя, усе) выплываньне, красаваньне, сьпеласьць, час прыборкі ўраджаю, самы ўраджай, усе хваробы расьлін і г. д.

Калі здараецца, што якая-небудзь дзялянка адрозьніваецца, то гэта запісваюць у ведамасьць і робяць адзнаку на пляне вопыта.

Тэмы сялянскіх досьледаў часткаю паказаны ў № 3 „Плуга". Вядомая рэч, што сяляне-дасьледчыкі могуць і самі выбіраць сабе найбольш цікавыя тэмы. Аднак, трэба сказаць, што найбольш патрэбнай тэмай для шмат якіх раёнаў будзе пасеў кармовых буракоў, нашы мясцовыя ўгнаеньні і г. д.

Нарэшце скажу, наколькі цікава гэта дасьледчая праца для селяніна, настолькі яна ўсё-ж такі трудная і вымагае ад яго шмат пільнай увагі, працы і асаблівага жаданьня.

Але тут селянін-дасьледчык будзе адчуваць вялікае здавальненьне, калі ён атрымае выразны „адказ расьліны" на тое запытаньне, якое ён ёй ставіць [1]).

С. Тупяневіч.

---

# Што можа даць мінэральнае ўгнаеньне.

(*Вопыт селяніна*).

**Зняты папар даў ураджай жыта 130 п. 20 ф. на дзесяціну, а чысты папар толькі 116 п. 30 ф. Жыта пасьля занятага папару было ўгноена 10 п. тамасшлаку.**

У маім дзевяцёхпалёвым севазвароце адно поле ідзе ў чорны папар, другое ў заняты. У жніўні 1923 г. адно і другое поле было ўзарана плугам Сакка на глыбіню 4 вярш. і так пакінута на зіму.

Вясной 1924 г. абедзьве зьмены былі паскароджаны і пакінуты тыдні на два, пакуль ня скончыліся веснавыя пасевы. У траўні на абедзьве зьмены, быў вывезены гной па разьліку 2.400 п. на дзес. і зааранены на глыбіню $2^1/_2$ вярш. На адным полі была пасеяна выка з аўсом (8 п. выкі і 2 п. аўса), а другое поле пакінута пад чорны папар. Як толькі на гэтым папары зьявілася трава, яго баранавалі пружыноўкай і звычайнай бараною. У палавіне чэрвеня поле было зноў узарана і праз 4 дні пабаранавана. За дваццаць дзён да пасеву жыта поле было ўзарана ў трэці раз.

Поле пад выкай было ўзарана за 27 дзён да пасеву жыта на поўную глыбіню і праз дзень пасеян тамасшлак (колькасьцю 6 пуд.), які быў закрыты бараной у два сьляды. Зямля з-пад выкі вышла пульхнай, як на канапляніках.

---

[1]) Хто з чытачоў „Плуга" закладзе вопыты вясною і якія, просьба паведаміць рэдакцыю, каб можна было лепш дапамагаць гэтай справе. (Рэд.).

26 жніўня на абодвых палёх было пасеяна жыта (Пробштэйнскае). З восені жыта расло добра і к пачатку прымаразкаў рунь дасягнула 3 вярш. А каб жыта зімой ня выпрэла, рунь была страўлена скацінай, пасьля таго, як зямля добра ўмерзла.

Вясной 1925 г. жыта расло добра і па надворнаму выгляду не адрозьніваліся палі між сабою. Увосень ураджай быў сабраны і абмалочаны.

Поле, якое было пад выкай угноена гноем і тамасшлакам, мела 1 400 кв. саж. і дало зярна 76 пуд. 05 ф., што *на дзес. дае 130 п. 20 ф.*

Поле, якое было пад чорным папарам, мела 1.414 кв. саж. і дало зярна 68 пуд. 4 фун., што *на дзес. дае 116 пуд. 30 фун.*

Такім чынам відаць, што поле, якое было добра і своечасова выраблена, пры прымяненьні гною і мінэральнага ўгнаеньня пасьля выкі дало большы ўраджай, чым поле, што было пад чорным папарам і ўгноена адным гноем. Акрамя таго, з 1.400 кв. саж. я атрымаў 180 пуд. добрага выкавага сена. Добра, каб чытачы часопісі „Плуг", якія прымяняюць мінэральнае ўгнаеньне на занятым выкавым папары, напісалі аб сваіх выніках у часопісь. Селян. **Б. Шымковіч.**

## Вопыт з попелам.

**Ячмень без угнаеньня попелам дае 40 пуд. на дзес., пасьля падсеву 90 п. попелу ураджай павялічыўся на 34 пуды.**

Яшчэ да гэтага часу сялянскія гаспадаркі не скарыстоўваюць попел, як угнаеньне. Рэдка знойдзецца такі селянін, які на кожны пуд попелу глядзіць, як на пуд збожжа. Каб паказаць, якую вялікую карысьць прыносіць попел, як угнаеньне, у мінулым 1925 г. культурная гаспадарка Карбановіча (Клічаўскі раён) спрактыкавала ўплыў попелу на ўраджай. Дзеля гэтага быў пастаўлены вопыт з пячным попелам пад ячмень. Вучастак поля з-пад бульбы быў разьбіты на 2 дзялянкі плошчаю 100 кв. сажн. кожная. На першую дзялянку паложана *попелу па разьліку 90 пуд. на дзесяціну*, а другая дзялянка нічым ня была ўгноена.

Ячмень на дзялянцы з попелам даў добры ўраджай (74 пуд. на дзес.), а на другой дзялянцы ўраджай быў 40 пуд. Пры гэтым усе іншыя ўмовы на абоіх дзялянках былі аднолькавыя.

З усяго гэтага відаць, што попел зьяўляецца цэнным угнаеньнем, але ў нас у сялянскіх гаспадарках мала зьвяртаюць увагі на яго і часта выкідаюць, як сьмецьце.

— Сяляне, зьбірайце попел і ўгнойвайце ім ваша поле і сенажаці. **Я. Сьмірноў.**

## Як палепшыць вартасьць гною.

**Добра перапрэўшы гной у два разы зьмяншае свой аб'ём, а ўплыў на ўраджай мае большы.**

Возка гною адбірае шмат часу, асабліва, калі поле знаходзіцца далёка ад двара. У зьвязку з гэтым часта прыходзіцца падумаць, якбы гэту працу зьменшыць.

Вось я пакажу прыклад з маіх вопытаў. У 1924 годзе перад вывозкай гною на поле, я выкінуў яго на двор і зваліў у вялікую кучу,

дзе гной праляжаў два тыдні. У гэты час гной паліваўся рознымі памыйкамі, гнаёвай жыжкай і інш.

За час ляжаньня ў кучы гной страціў аб'ёмістасьць прыблізна на 40 проц., перапрэў і пачарнеў. Сусед мой, бачачы, што я важу цёмны і дробны гной, казаў, што такі гной ня варта вазіць на поле, бо ад яго карысьць будзе малая; я-ж не паслухаў яго і рабіў сваё.

Сам сусед вазіў гной як быццам і добры, на погляд жоўтага колеру, але, як кажуць, гэта была „жывая салома“.

На сваім полі я пасеяў бульбу і сусед таксама пасеяў бульбу. Увосень, калі я выбіраў бульбу, сусед прышоў пацікавіцца і ўбачыўшы, што ў мяне вырасла вялікая бульба на такім дрэнным гнаі, вельмі зьдзівіўся. А калі я спытаў, якая ў яго бульба, ён адказаў, што вельмі дрэнная, ня гледзячы на тое, што гной быў добры. Тут я ўжо не замаўчаў і сказаў, што „ня ўсё тое золата, што блішчыць“ і што ён наконт гною памыляецца.

Каб упэўніцца, што такі ўраджай бульбы быў не выпадковы, я ў 1925 г. рашыў зрабіць больш дасканалы вопыт з гноем.

Дзеля гэтага частку гною я зложыў у вялікую кучу, каб ён перапрэў і страціў свой аб'ём на 50 проц.; на гэты раз яго палівалі мыльнай вадой, начным золатам, памыямі і інш.

У другой палове красавіка я ўгноіў вучастак зямлі перагніўшым гноем па разьліку 1000 пуд. на дзес. і два вучасткі ўгноіў сьвежым неперагніўшым гноем па разьліку 2000 пуд. на дзес.

Гэтыя два кавалкі я засеяў бульбаю аднолькавага сорту і па аднолькаваму спосабу вырабу поля.

К часу асыпаньня бульбы быў такі малюнак: бульба на перагніўшым гнаі стаяла сьцяной, а на сьвежым была відаць голая зямля. У кастрычніку ўраджай быў сабраны; прычым першы вучастак плошчаю 50 кв. сажн. даў 60 пуд., а другі вучастак такой жа велічыні даў 40 пуд. бульбы.

З паказаных мною вопытаў відаць, што возка на першы вучастак зьменшыла на палову працу і разам з тым якасьць яго павысілася ў паўтара разы.

Сел. Т. Апет.

Дуброўна, Аршаншчына.

---

# Пасеў кармовых буракоў насеньнем і расадай.

З 1922 году я сею кармовыя буракі расадай і заўсёды зьбіраю добры ўраджай.

Расада буракоў у мяне свая. За месяц да высадкі буракоў у поле, я высяваю іх радкамі ў граду. Града робіцца так: кладзецца цёплы конскі гной і добра ўтаптваецца нагамі. Таўшчыня гнаёвага слою павінна быць 3-3½ вярш., бо таўсьцейшы слой больш награваецца і карэньні расады перагараюць. На гной я кладу 2-2½ вярш. звычайнай гароднай зямлі, крыху зьмешанай з пяском. Града ў мяне аблажана зрубам з дошак, пры чым паўднёвы бок зрубу ніжэй паўночнага, як гэта робіцца і ў парнікох. Нахіл невялікі, каб пры паліваньні ня змывала зямлі. На ноч градку трэба накрываць рагожамі або саломай. Паліваць градку трэба палівачкай з чыстым сітам, каб зямля ў ёй бы-

ла заўсёды вільготная. Праз месяц пасьля засеву расаду ўжо можна высаджваць у поле. Я высаджваю расаду ў другой палове траўня, калі ўжо ня бывае прымаразкаў. Калі ў часе высадкі стаіць сухая пагода, то расаду трэба адзін-два разы паліць вадой і яна прымецца.

Я маю з сваёй градкі 2 $2^1/_2$ тыс. штук расады буракоў. З восені поле пад буракі я ўгнойваю гноем, заворваю яго і пасьля барануюю. Вясной поле пад буракі вырабляецца таксама, як і пад бульбу. За дзень да пасеву асыпнікам праводзяцца гранкі і ўсьлед за асыпнікам граблямі зьніжаю і раўную паверхню гранак. Расада садзіцца пад калок на 8 вярш. адна ад другой.

У 1925 г. было пасаджана 2.000 штук расады і пасеяна насеньнем проста ў зямлю 1.000 шт. Вынікі ўраджаю такія: вагі самага вялікага бурака ад расады я ня ведаю, бо самыя вялікія былі ўкрадзены, а з застаўшыхся самы вялікі важыў 14 фун. Сярэдняя вага аднаго бурака ўсяго ўраджаю ад расады была 7 фун., а ад пасеву насеньнем 4 фун.

З усяго відаць, што ўраджай буракоў з расады амаль у два разы большы, чым ураджай ад высеянага насеньня ў зямлю.

Адразу можа паказацца, што з расадай шмат лішняй працы, але гэта ня так. Апрача таго, што буракі з расады даюць ураджай амаль у два разы большы, за імі на полі трэба менш глядзець, бо яны хутка разрастаюцца і заглушаюць сарніну. Усходы-ж насеньня трэба часта палоць; растуць яны павольна, іх трудна асыпаць і яны не заглушаюць сарнякоў.

Такім чынам, з 2.000 шт. расады пры сярэдняй вазе ў 7 фун. я атрымаў 360 пуд. буракоў, а з 1.000 шт. насеньня, якое было высеяна ў зямлю, пры сярэдняй вазе 4 фун. 100 пуд. Знача, усяго 460 пуд. Даючы карове па 30 ф. у дзень ці 22 п. 20 ф. у месяц, гэтай колькасьці хопіць на пракорм 2-х кароў на працягу 10 мес.

Селянін Б. Шымковіч.

(Дуброўна, Аршаншчына).

---

## Баранаваньне жыта вясною.

**Рана вясною барануйце жыта. Барана разьбівае скарынку на заплыўшым полі. Угнойвайце жыта вясною мінэральнымі ўгнаеньнямі.**

Як толькі адтане зямля, тады вельмі хутка высыхае зімовая вільгаць і разам з гэтым на зямлі робіцца як бы скарынка; хутка пойдуць трэшчыны і глеба ў самы кароткі час так высыхае, што рунь пачынае затрымоўвацца ў росьце. Яна такім чынам не скарыстоўвае ні цяпла, ні сонца, ні вільгаці вясны. Чаму глеба высыхае, калі на ёй зробіцца скарынка, вучоныя ўжо даўно далі адказ. Пры ўтварэньні скарынкі зьляжалая глеба падобна да кноту ў лямпе, на якім вільгаць з ніжэйшых пластоў падымаецца к верхнім і выпарваецца. Падыманьне вады адбываецца па цененькім, як волас дудачкам, якія маюцца і ў зьбітай зямлі. Каб глеба не перасыхала, неабходна разбаранаваць верхні слой зямлі прыкладам на 4 см. (1 вярш.) глыбіні. Баранаваць можна лёгкімі жалезнымі або драўлянымі баронамі (у 2 сьляды) удоўж і поперак. Акрамя таго, ад баранаваньня ў жыце лепш разрастаюцца кусты. Часта сяляне гавораць, што баранаваньнем вырываецца жыта. Аднак, баяцца гэтага ня трэба, бо на цяжкіх глебах усё акупляецца з ка-

рысьцю добрым ураджаем. Але гэта можна праверыць і на вопыце: узяць адну дзялянку (100 кв. саж.) і пабаранаваць, а другую пакінуць небаранаванай і потым зрабіць падлік ураджаю.

Баранаваць трэба тады, калі глеба зробіцца такою, што зямля ня будзе брацца за барану і конь ня будзе вязнуць. Пры гэтым трэба, каб конь быў ня куты, бо падковы ўздымаюць глебу і псуюць усходы. Я ад душы раю паспрабаваць баранаваць жыта вясною.

Здараецца, што жыта з зімы выходзіць кволае. Бывае гэта ад розных прычын: то з восені чарвяк папсуе, то вялікі сьнег прыпарыць, калі ён выпаў на сырую (нямёрзлую) зямлю і інш. У гэткім выпадку вельмі важна бывае дапамагчы расьлінам. Апрача баранаваньня тут вельмі добра дапамагае і павярхоўнае ўгнаеньне супэрфосфатам (9-12 п. на дзес.), калі з восені поле ня ўгнойвалася мінэральнымі ўгнаеньнямі. Супэрфосфат высяваецца ў ціхую пагоду і тады, калі чалавек можа хадзіць па ніве.

З угнаеньнем трэба таксама зрабіць маленькі вопыт, а потым параўнаць ураджай дзялянкі ўгноенай і няўгноенай. Я сам сеяў (паверху угнаеньне на $^1/_4$ дзес., а $^1/_4$ дзес. пакінуў без угнаеньня. Угнаеньнем быў супэрфосфат ($2^1/_2$ пуд.). З першай дзялянкі сабраў ураджаю 36 пуд., а з другой (без угнаеньня) $22^1/_2$ пуд.

Другі вопыт з баранаваньнем. $^1/_3$ дзес. жыта пабаранаваў, а другую пакінуў небаранаванай. З пабаранаванай дзялянкі атрымаў зярна 31 п., а з небаранаванай 26 пуд.

Вось чаму я раю паспрабаваць гэта на сваіх палёх.

Селянін **А. Карнейчык**.

(Сарачынава, Пухавіцкі раён).

---

# Грады.

*(з практыкі)*.

Вясной, як толькі зямля прасохне, праца ў гародзе павінна пачынацца. Як можна раней гарод трэба пабаранаваць. Пасьля гэтага ўзараць плугам і яшчэ раз пабаранаваць. Затым пачынаецца разьбіўка град.

Грады можна рабіць або ў ручную рыдлёўкай, або аднаконным плугам ці сахою. Вышыня і шырыня град робіцца не аднолькавымі. На больш-менш ніз ім месцы грады трэба рабіць высокія (ад 4 да 6 вяршкоў) а на сухіх $1^1/_2$—2 вярш. Звычайна грады робяцца $1^1/_4$ арш. шырыні, а ўдоўжкі як хочуць. Паміж градак трэба пакідаць дарожку ў 7-8 вярш. шырынёю. На скацістым месцы грады робяцца ўпапярок загонаў, калі яны ідуць зьверху ў ніз. Зямлю ў гародзе трэба добра вырабляць.

На сырых глебах праца канчаецца за 3-4 дні да засеву. Як усё гэта будзе зроблена, можна садзіць ці сеяць гародніну.

Селянін **Сялюкін**.

(Віцебшчына).

---




## Садзеце груповыя сады.

Зборнік матэрыялу ЦСУ за 1923-24 г. дае магчымасьць вылічыць таварную частку продуктаў у сельскай гаспадарцы. Яна выяўляецца так:

| | |
|---|---|
| Палявая гаспадарка | 22,7% |
| Жывёлагадоўля | 39,4 „ |
| Садоўніцтва | 53,7 „ |
| Гародніцтва | 15,5 „ |

А ў сярэднім па БССР 26,4 %.

Ва ўсім Саюзе садоўніцтва мае яскрава выяўлены спажывецкі характар. Да вайны сады Саюзу давалі пладоў 275 міл. пуд., з якіх на долю прамысловага садоўніцтва прыпадала 75 міл. пуд.; але адборнага тавару было ўсё-ж такі ня больш 25 міл. пуд.

Продукцыя садовіны ў БССР адносна большая, чым па Саюзу, бо ў нас на жыхара прыпадае 60 фун. садовіны, а па Саюзу 28 ф.

У сялянскім бюджэце садоўніцтва займае 3-е месца, бо прыбыткі гаспадаркі складаюцца так:

| | |
|---|---|
| Палявая гаспадарка | 48,5% бюдж. |
| Жывёлагадоўля | 38,8 „ „ |
| Садоўніцтва | 2,86 „ „ |
| Гародніцтва | 1,03 „ „ |

Гэтыя лічбы паказваюць прамысловы напрамак сялянскага садоўніцтва. Пры выміраньні панскіх садоў роля сялянскага пладаводзтва хутка ўзрастае.

Чарговым заданьнем земорганаў зьяўляецца ўмацаваньне і разьвіцьцё таварнага напрамку садоўніцтва. Аднак, звычайны рост плошчы пад садамі пры старой іх організацыі яшчэ не зьяўляецца прыкладам запраўднага росту і ўмацаваньня экономічнага значэньня садоўніцтва.

Сучасныя сялянскія сады вынікалі стыхійна, незалежна адзін ад другога, бяз унутраное сувязі і таму пры цяперашняй іх плошчы ў гады ўраджаю бываюць крызысы пры збыце.

*Новыя сады* павінны ўкладацца ў новыя організацыйныя формы і па магчымасьці з больш поўным коопэраваньнем садоўніцтва.

Новай організацыйнай формай садоў будуць *груповыя сады.* На Ўкраіне груповая форма садоў ужо пашыраецца. Сутнасьць яе вось у чым.

У час разьмеркаваньня зямель пры земляўпарадкаваньні ўсе грамадзяне, якія жадаюць пасадзіць сад, аб'ядноюцца ў асобную групу. З нормы кожнага члена нарэзваецца плошча пад сад у адным вучастку, які павінен адказваць усім патрэбам у разьвіцьці саду.

Плошча саду кожнага члена адмяжавана, але ўсе такія сады маюць агульную ахову, засаджваюцца па аднаму пляну, які складаецца абавязкова пры дапамозе спэцыялістага. Пароды, сарты, прамежныя расьліны, адлегласьць паміж дрэвамі аднолькавы. Кожны сад паасобку зьяўляецца тым-жа груповым садам, толькі меншым па плошчы.

Факт атрыманьня ў адным месцы зямлі пад сад дае падставу для аб'яднаньня ўсёй групы ў садовае таварыства. Пры такой форме садоўніцтва атрыманьне крэдыту, абслужваньне саду з боку земорганаў значна палягчаецца. Абслужваньне-ж садоў спэцыялістымі ў сучасных формах іх арганізацыі не давалі магчымасьці. Таксама агульная ахова садоў, барацьба са шкоднікамі, здабываньне неабходных садовых прыладаў і г. д. у груповым садзе могуць мець пэўнае месца. І яшчэ.

Арганізаваны збыт ураджаю мае адну з галоўных пераваг:

а) на гарадзкія рынкі можна збываць сьвежую садовіну. Перахоўваньне фруктаў, якое мае вялікае значэньне ў амэрыканскім гандлю, можа быць ужыта і ў нашай вёсцы;

б) арганізацыя розных форм тэхнічнай пераапрацоўкі пладоў надае саду моцны і сталы характар.

Самыя горкія разчараваньні садаводаў часта супадаюць з гадамі добрага ўраджаю, калі няма куды дзяваць садовіну.

Наша пажаданьне, каб ідэя закладкі *груповых садоў* стала пашыранай сярод агрономаў і земорганаў.

Калі ставіцца пытаньне аб севазвароце, неабходна ставіць пытаньні і аб груповым садзе. Падтрымоўваючы і пашыраючы гэту ідэю сярод насельніцтва магчыма будзе яе выканаць і паказаць, што і ў пролетарскай дзяржаве бываюць сялянскія сады на плошчы ў 20-30 дзес. і больш, якія ў мінулы час былі толькі ў панскіх гаспадарках. На Украіне ўжо ёсьць нарэзкі пад сады ў 400-600 дзес. Цяпер яны засаджваюцца. Аб'яднаўшы такія сады з фабрыкамі па тэхнічнай пераапрацоўцы продуктаў сельскай гаспадаркі, будзем мець новы тып соцыялістычнай садовай гаспадаркі.

**Р. Гуржы.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

---

# Гадуйце гароднае насеньне.

Плянтару гароднага насеньня патрэбна быць добра знаёмым з варункамі клімату свайго раёну. Вялікае значэньне мае вясна. Напрыклад, за 45 год дзеля Горак маем у красавіку (IV) сярэднюю тэмпэратуру 4,6°. Адхіленьне ад нормы магчыма на 1,8°. У нашым раёне ў красавіку можна чакаць 3-4 дні марозных. 6 дзён марозных мы чакаем толькі з пэўнасьцю на 15 проц. Падкрэсьлім, што красавік у справе гароднага насенаводзтва мае вялікае значэньне. У гэты месяц трэба выносіць са склепа высадкі капусты. За апошнія гады высадка капусты (сарты Браўншвэйгская і Швэцкая) з карэньнямі таксама і галоўкамі у Горках на плянтацыях рабілася 15-22 красавіка. Маразы ў

5° высадкі капусты пераносяць. Да канца красавіка высаджваліся кармовыя буракі (разам з гароднымі сартамі). Дзеля прадасьцярогі ад марозу іх абгортвалі зямлёй. У пачатку траўня (V) зямлю можна зраўняць. Нашы сяляне заўсёды сьпяшаюцца з высадкамі. У гэтым ёсьць сэнс. Пасадка ў траўні даводзіць да таго, што ў сухмень буракі і капуста адчуваюць сябе дрэнна і ўраджай бывае нязначны.

Травень месяц вельмі цёплы і сонечны, дзеля Горак 12,5°. Мы павінны гэта як найлепш скарыстаць. Пры спрыяючых умовах нашы плянтацыі капусты пачынаюць ужо заквітаць у канцы траўня, а ў палове ліпеня пачынаюць пасьпяваць стручкі. Наогул, мы маем цэлых 5 месяцаў з тэмпэратурай звыш 10°.

Мы ня бачым перашкод дзеля масавай культуры ў Горацкім раёне насеньня капусты, бручкі, турнэпсу, буракоў кармовых і гародных, морквы і нават таматаў і махоркі. Лягчэйшым мы лічым здабываньне насеньня капусты і бручкі. Мы ўпэўнены, што нашы паўднёвыя акругі яшчэ больш спрыяюць палепшаным расьлінам. Даводзіцца часам чуць, што дажджы ў пачатку ліпня і жніўня зьяўляюцца перашкодай у гэтым кірунку.

Вывучэньне біолёгіі нашых кармовых і гародных расьлін, сортаапрабаваньне і адабраньне найлепшых сартоў дзеля нашых варункаў, вывучэньне клімату і паветра кожнага раёну—усё гэта дае надзею, што будучына за гэтай справай.

*Выбар месца* мае значную ролю. Месца неабходна абараніць жывым плотам; месца павінна быць з нахілам на поўдзень і захад. Пад глебай не павінна быць блізка вада. Лепшыя глебы—лёэсавідныя суглінкі і проста суглінкі. Пяскі і супяскі дзеля гандлёвых плянтацый вартасьці ня маюць. Памылка, калі лічыць, што высадкам можна даць апошняе месца ў гародным севазвароце. Наогул, гэта спэцыяльная культура патрабуе шмат ведаў; шмат яшчэ трэба зрабіць нам у напрамку дасьледчай справы гародніцтву, сэлекцыі гароднага насеньня і г. д.

*Выбар сорту* мае надзвычайнае значэньне. Сорт-аснова гародніцтва. Усім вядома значэньне ў нашых варунках экендорфскага жоўтага бурака, эгіпэцкага гароднага, браўншвэгскай капусты, вязьнікоўскіх гуркоў. Але нам добра вядома, што кожны раён мае і свае адносіны да сартоў і нават свае мясцовыя сарты. Толькі пры дапамозе дасьледчых станцый і лепшых насенаводных саўхозаў, магчыма будзе добра паставіць гадоўлю насеньня кармовых буракоў, бручкі, турнэпсу, пажадана і гароднага насеньня.

Трэба падкрэсьліць толькі адно, што спэцыялістых—сэлекцыянэраў у сучасны момант у нас няма. З дасьледчай справай у гэтым напрамку таксама не шанцуе. А жыцьцё ідзе наперад. Насенныя таварыствы ствараюцца, наша сялянства патрабуе штогод насеньне буракоў, турнэпсу і гародніны і ў першую чаргу лепшага мясцовага апрабаванага і з гарантыяй дасьледчых устаноў.

Трэба стала і навукова-практычна закладваць насеннаводныя палеткі, трэба трымаць шчыльную сувязь з дасьледчымі станцыямі.

М. Бурштэйн.

# Вучэцеся гадаваць добрыя гуркі.

**Калі палажыць гной пасярэдзіне грады і заараць, то на такой градзе гуркі растуць, як у парніку.**

Надыходзіць вясна і многія ўжо думаюць, што і як сеяць. Некаторыя-ж гаспадары засяваюць свае гароды чым папала, чаму і карысьці маюць мала.

Аб гуркох, вядома, мала хто думае вясной. Пасееў добра, а не, то можна будзе купіць на рынку колькі хочаш. Так кажуць вельмі многія, а між тым гуркі, як кожнаму вядома, зьяўляюцца пажаданым продуктам у кожнай хаце. Апрача таго, гуркі могуць даць і значны прыбытак.

Вось тут я і хочу расказаць аб сваім практычным вопыце па разьвядзеньню гуркоў.

Поле пад гуркі трэба араць з восені, адразу пасьля прыборкі ўраджаю і як мага глыбей. Калі-ж з восені ўзараць не ўдалося, то можна гэта зрабіць і вясною.

У канцы красавіка, калі зямля ўжо зусім прасохне, трэба яе добра вырабіць, затым правесьці глыбокія барозны, каб вышлі грады крыху шырэйшыя, як пад капусту ці бручку. Калі барозны гэтыя ўжо зроблены, трэба пакласьці ў іх гною прыблізна 2 пуд. на 1 кв. саж. і зараз-жа прайці плугам ці асыпнікам, каб закрыць гной. Пасьля такой працы, там, дзе ў першы раз былі барозны, выйдуць градкі, у сярэдзіне якіх будзе гной. Градкі трэба рабіць так, каб вышыня іх раўнялася 4-5 вярш. Сярэдзіны градак раўняюцца валікам або граблямі; і пасьля гэтага можна сеяць гуркі.

Насеньне лепш усяго браць тое, якое ўжо звыклася з мясцовым клііматам. Насеньне можна даставаць на бліжэйшых сэлекцыённых станцыях. Таксама можна браць насеньне і з мясцовых сартоў, але толькі добра высьпеўшае. Пазнаецца яно па поўнаце зярна. Высяваць гуркі лепш у 2-3 тэрміны, бо калі захопіць мароз самы раньні пасеў, то пазьнейшы ўжо будзе непашкоджаным.

*Першы раз трэба* высяваць гуркі ў сярэдзіну градкі. Перад пасевам, канцом палкі або граблямі праводзяць баразёнку глыбінёю 1/2-1 вярш., куды і высяваюць насеньне на 2 вярш. адно ад другога. Пасьля пасеву насеньне засыпаюць зямлёй (канцом грабель) і паліваюць вадой.

*Другі пасеў* робіцца праз два тыдні, высяваючы насеньне з боку градкі такім самым спосабам, як і ў першы раз; *трэці пасеў* робяць яшчэ праз два тыдні з другога боку градкі.

Пасевы гуркоў у сухую пагоду трэба паліваць. Рабіць гэта лепш вечарам; але толькі ў тым выпадку, калі ня будзе прымаразкаў.

Калі ўсходы будуць мець 3-4 лісьцікі, то іх трэба прарваць, пакінуўшы адзін ад другога на 4-5 вярш. і акапаць.

Бывае, што зямля на градах становіцца цьвёрдай. Тады яе трэба ўспульхніць. Паліваць гуркі трэба да таго часу, пакуль яны не пачнуць зацяняць грады. У час красаваньня паліваць трэба радзей.

*Палоць* і *ўспульхняць* зямлю трэба да таго часу, пакуль гурэчнік не ўмацуецца і не стане заглушаць сарніну.

Як зьявяцца косы, іх трэба раскладаць па бакох град. Калі пачнуць расьці гуркі, то выбіраць іх можна штодня, у залежнасьці ад велічыні вучастка. Пры выбіраньні ня трэба ступаць на косы; ашчыпваюць гуркі асьцярожна.

*Па такому спосабу ўгнаеньня і пасеву ў мяне ў 1925 г. кожны квадр. саж. даў каля 400 гуркоў за лета, цаною прыблізна 50 кап. за сотню.* Пры звычайным спосабе ўгнаеньня, г. зн. раскідваючы гной пад плуг або рыдлёўку, кожны квадр. саж. даў ня больш 200 шт.; прычым гуркі былі горшыя, сотня іх каштавала ня больш 25 кап.

Зьбіраць гуркі лепш раніцой з расой або пасьля дажджу. Для саленьня гуркі трэба выбіраць сярэдняй велічыні і бяз плям. Гуркі-ж жоўтыя, з плямамі і крывыя могуць быць скарыстаны сьвежымі. Перад саленьнем гуркі абмываюцца халоднай вадой. Дно кадушкі, у якой соляцца гуркі, засьцілаецца перамытымі вішнёвымі і дубовымі лісьцямі з укропам, часнаком і хрэнам. Складаюцца гуркі радкамі, кожны радок перакладаецца паказанай мешанінай. На апошні радок трэба палажыць больш мешаніны і прыкрыць драўляным кружком, а на яго палажыць камень.

Пасьля гэтага гуркі заліваюцца гатаванай астуджанай і пасоленай вадой так, каб вада стаяла вышэй кружка на 1 вярш. Солі трэба 2-3 фун. на мерку гуркоў. Кадушка з гуркамі ставіцца ў падвале.

Праз тыдзень трэба яе агледзіць, каб не цякла і ня было плесені, якую трэба зьбіраць, ня здымаючы кружка і каменя. Пакідаць плесені ня варта, бо яна псуе гуркі.

Пасоленыя такім спосабам гуркі могуць захоўвацца да новага ўраджаю. Пры жаданьні мець раньнія сьвежыя гуркі і пры адсутнасьці парнікоў, робіцца так: гарод узорваецца таксама, як і пры першым спосабе, кладзецца гной і прыкрываецца на 3 вярш. Градкі робяцца да 1½ арш. вышыні і любой даўжыні; прычым напрамак град. павінен быць з захаду на поўдзень і паўночны бок вышэй паўднёвага вяршкі на 4; бакі град трэба абкладаць дошкамі. Калі шкляных пакрышак няма, то на ноч градкі можна пакрываць саломай, мяшкамі або рагожамі.

Сеяць трэба скарасьпелыя сарты самай раньняй вясной, як толькі прасохне зямля.

**Сел. Т. Апет.**

(Дуброўна, Аршаншчына).

---

# Беларуская белакачанная капуста—найлепшы сорт у нашых умовах.

Чытач „Плуга“ можа падумаць, за што дана такая назва гэтай капусьце. У 1841 годзе майго бацьку 14-ці гадовым хлапцом узялі ў сад маёнтку Бачэйкава, дзе і быў гэты сорт капусты. Увосень кожнага году мой бацька адбіраў на насеньне самыя лепшыя качаны. Далей да самага „паўстаньня“ бацька служыў садоўнікам у пана, але ў 1863 г. паны выехалі за межы, а маёнтак Бачэйкава быў адданы ў арэнду немцу, якому мой бацька, як садоўнік, быў не патрэбен.

Далей бацька заарандаваў гаспадарку Фатынь і перанёс туды і насеньне гэтай капусты. Як бачым, гэты сорт капусты зьяўляецца самым старым для нашай мясцовасьці (адсюль і назва „беларуская“). Гэту капусту ў нас ужо садзяць 85 г. і маюць ад яе добры даход.

Раней качан гэтай капусты быў цьвярды, плоскі; ня гледзячы на тое, што капуста абсыпалася зямлёй высока, амаль уся лажылася

на бок, і качаны падгнівалі. Але падборам насеньня ніжэйшых і круглых качаноў на працягу шмат год выведзена капуста нізкая і акруглістая.

Да вайны мы кожны год выпісвалі на спробу шмат розных сартоў белакачаннай капусты; бывала лепшыя качаны пакідалі на насеньне. У час красаваньня новыя сарты, вядома маглі мець уплыў на нашу капусту. Але колькі мы не рабілі досьледаў з новымі сартамі, з іх такога добрага ўраджаю ніколі ня было, як з нашай старой капусты.

Год ад году суседняе насельніцтва знаёмілася з нашай капустай і шмат якія гаспадары ад продажы ўвосень капусты аплачвалі свае падаткі. Таксама кожны год трэба было павялічваць пасевы капусты. Да вайны капуснай расады высявалася ў нас 30—40 фун., а цяпер 20 фун. Шмат якія сяляне самі ўжо навучыліся сеяць капусту, але не ва ўсіх яна ўдаецца: у аднаго зьмерзьне, у другога мошка зьесьць, а некаторыя пасьля некалькіх год бачаць, што капуста робіцца горшай (ня ведаючы прычыны гэтага) і яны зноў бяруць у нас.

Асабліва многа капусты нішчыла ў нас земляная блыха, ад якой нельга было пазбавіцца. Больш 20 г. таму назад пасеў капуснай расады ў 25 фун. амаль увесь быў зьністожаны земляной блыхой. Застаўся толькі невялікі кавалак расады на новым месцы, дзе *ўвосень сушыўся гарох.* У гаросе было насеньне сурэпіцы, якая вясной узышла і гэтыя ўсходы былі зьедзены земляной блыхой, а расада засталася цэлай. Убачыўшы такі цікавы выпадак, я кожны год *пачаў сеяць разам з капустай сурэпіцу* і з таго часу земляная блыха больш ня шкодзіла капуснай расадзе.

Гарод пад капусную расаду вырабляецца з восені; вывозіцца гной, які заворваецца, а потым поле барануецца і перад самымі маразамі плугам ці асыпнікам робяцца барозны. Шырыня град робіцца ў $1^1/_2$ арш. Там, дзе зімою нанесена ветрам шмат сьнегу, вясной трэба пасыпаць торфам ці попелам, каб сьнег хутчэй растаў. Як толькі падсохне зямля, грады трэба ўспульхніць шыроказубымі віламі ці рыдлёўкаю.

Калі грады будуць гатовы, зараз жа пачынаюць сеяць капусту і іншую гародніну. Насеньне капусты перад пасевам змачваецца вадой (на 1 фун. насеньня ўліваецца 3 зал. вады) і зараз-жа ў мокрае насеньне сыплецца жменя цёртага мелу, каб яна пабялілася. Гэта робіцца дзеля таго, каб зрабіць правільна пасеў: белае насеньне на чорнай або шэрай зямлі добра прыметна. Лішні мел трэба высеяць на сіта і зараз-жа ў пабеленае насеньне трэба прыбавіць 4 лоты палявой сурэпіцы на 1 фун. насеньня. Калі пасеў насеньня капусты спазьніўся, то сурэпіцы сыплюць 6 лотаў на 1 фун. насеньня. Чым радзейшы пасеў, тым лепшая вырастае расада.

Звычайна ўсходы сурэпіцы ўзыходзяць раней капусты і земляная блыха пачынае зьядаць іх; сурэпіца ёй больш падабаецца, і затым капусная расада застаецца непашкоджанай.

Насеньне капусты даволі прыкрыць зямлёй на $^1/_8$ вярш. і потым грады параўнаць граблямі і прыціснуць дошкаю.

У час росту расады на вялікай плошчы яе не паліваюць, невялікія-ж пасевы паліваць трэба. У невялікіх гаспадарках зараз-жа пасьля пасеву насеньня капусты грады трэба прыкрыць рагожамі або саломаю і трымаць закрытымі пакуль зьявяцца ўсходы. Гэта вельмі карысна.

Ад прымаразкаў капусная расада ў нас рэдка гіне, але бываюць гады, што яе захоплівае мароз і тады грады прыкрываюць рагожамі, мяшкамі, сенам ці саломаю. Напрыклад, у 1918 годзе 22 красавіка мароз быў 5⁰ і капусную расаду трымалі закрытай 9 дзён.

Вельмі карысна густую расаду перасадзіць і прыкрыць саломаю на 4-5 дзён.

*Наша капуста* мае кароткі надворны ліст і не такі раскідзісты, як напрыклад у сабураўскай капусты. Ад гэтага глеба пад ёю доўгі час пасьля дажджоў застаецца вільготнай. Гэта таксама дасягнута падборам качаноў з кароткім лісьцем. Такая капуста займае менш месца, чым сабураўка. Расаду нашу трэба садзіць на сярэдняй зямлі на 16 вярш. адна ад другой, а на добрай зямлі на 18—20 вярш.

Мы садзім расаду такім спосабам. Вясною заворваем гной і зараз-жа скародзім. Тыдні праз 2-3 зямлю зноў успульхніваем і баронуем; так зямля застаецца да пасадкі капусты. Перад самай пасадкай зямля зноў успульхніваецца і плугам мелка разганяюцца барозны ў адзін і другі бок на адлегласьці 1 арш., г. зн. робяцца перакрэсныя клеткі, сярэдзіна якіх перад пасадкай ускапваецца віламі або рыдлёўкай. Калі пры пасадцы некаторыя расьліны будуць вельмі доўгія, то іх садзяць глыбока. Пасьля пасадкі расьліны зараз-жа паліваюцца вадой. Мы паліваем капусту толькі адзін раз. Садзяць капусту звычайна пад вечар і калі стаіць гарачая пагода, то на другі дзень зранку прыкрываюць яе сьвежаскошанаю травою, палажыўшы жменьку травы на кожную пасаджаную расьліну. Калі капусту садзяць на вялікай плошчы і цэлы дзень, тады карэньні расады мочаць у растворы гліны з сьвежым кароўім калам. Такая расада добра прымаецца і не патрабуе прыцяненьня. Паліваюць яе толькі адзін раз.

Па нашаму досьледу лепшы спосаб пасадкі капусты такі: расаду садзяць на роўнай плошчы ніжэй узроўня зямлі ў квадратовыя клетачкі на адлегласьці 16-18-20 вярш. адна ад другой, каб можна было абганяць яе плугам ці асыпнікам. Асыпаюць капусту ў працягу лета разы 4—5 і кожны раз пасьля плуга або асыпніка выпалваюць траву і прысыпаюць зямлю к капусьце. Калі ўжо капуста разрасьцецца, то далейшае асыпаньне канём немагчыма, а толькі матыкай. Ад асыпаньня качаны вырастаюць вялікія.

*Увосень на насеньне* выбіраюцца самыя лепшыя качаны. Качан павінен быць цьвярды, правільнай круглай формы, на тонкай і нізкай качарэжцы, з тонкім і белым лістам. Звычайна ў нас насенныя качаны захоўваюцца ў пограбе цэлымі; дзе-ж ёсьць сухія паграбы з пескавой глебай, там можна пакідаць на насеньне качарэжкі, але таксама з адабраных качаноў.

Наша капуста сярэдня-раньняя. Яе ня варта вельмі рана высяваць і яна не патрабуе шмат угнаеньня. Гэта капуста яшчэ цэнна тым, што ўвосень яна рэдка калі трэскаецца, у той час, калі браўншвэйская ў цёплую восень амаль уся трэскаецца і бывае, што на продаж нічога не застаецца.

Калі стаіць сухая пагода, а потым пойдуць дажджы, то капуста ад лішку вільгаці пачынае трэскацца. У гэты час, калі яе з поля прыбіраць яшчэ рана, то ў капусты трэба падарваць карэньні, паварачваючы яе ў паўзварота. Тады яна спыняе рост і ня трэскаецца.

Бывае, што ў час красаваньня насеньнікаў, на кветкі капусты нападае чорная земляная блыха і зьядае іх так, што насенныя стручкі

не вырастаюць. Дзеля таго, што ў час красаваньня апырскваць расьліны атрутамі нельга, то жучкоў абтрасаюць з кветак капусты. Дзеля гэтага трэба зрабіць з кардону як бы шырокую лейку; сярэдзіну яе абмазаць мазьзю або смалою, а зьверху яе палажыць драцяную сетку і тады пры атрасаньні кветак блохі правальваюцца праз сетку і прыліпаюць да вымазанага кардону. Шырыня такой варонкі павінна быць 10 вярш.

Калі на высаджаную ў грады капусту накідваецца блыха, то грады трэба зранку пасыпаць попелам з прымешкаю тачабнага пылу. Таксама можна блох і вылаўліваць. Дзеля гэтага бяруцца 2 кавалкі бяросты ці кардону даўжынёю ў 8 вярш., а шырынёю 6 вярш., якія памазаны мазьзю і прыкладваюць з бакоў у кожнай расьліны. Блыха саскаквае на кардон і прыліпае да мазі. Хадзіць трэба супроць сонца, каб ад цені чалавека блыха не саскаквала. У дзень можна лавіць разы 4. За 2—3 дні ўсе блохі вылаўліваюцца.

Калі хто з чытачоў „Плуга“ захоча спрабаваць у сябе нашу капусту, то няхай прышле аплачаны канвэрт з адрасам і я прышлю насеньня нашай капусты бясплатна. Наш адрас: Бачэйкава, Віцебскай акругі, гаспад. Фатынь, Я. К. Марозу.

Я. Мароз.

---

# Як гадаваць памідоры.

Памідор, гэта дзікая аднагодняя расьліна Паўднёвай Амэрыкі, якая ўсё больш і больш распаўсюджваецца. Сьцябло і лісьце памідора падобны да сьцябла і лісьця бульбы. Розьніца паміж імі тая, што з бульбы мы карыстаемся падземнымі бульбінамі, а з памідора пладамі, што растуць на сьцяблох. Сьпелыя памідоры яскрава - чырвоныя і прыемныя на смак.

*Насеньне памідор* трэба сеяць у драўляных альбо гліняных пасудзінах у хаце, прыблізна ў сярэдзіне красавіка. Затым усходы неабходна перасадзіць у асобныя скрынкі вышынёю 2,5-3 вярш., шырынёю 4-5 вярш., даўжынёй 1,5 арш. Скрынкі павінны мець у дне невялічкія дзіркі, куды магла-б сьцякаць вада.

Садзіць расьліны трэба на 4—6 см. адна ад другой. Скрынкі ставяцца ў пакоі на сонечным месцы і штодзённа патроху паліваюцца.

У палове траўня, калі пагода цёплая, расаду памідор разам з зямлёю садзяць на грады на аршын адна ад другой. Грады павінны быць на сонечным месцы, добра ўгноены гноем і попелам. Пасадзіўшы расаду памідор на грады, сьцяблы памідор неабходна падвязаць да калкоў, каб іх не паламаў вецер, і некалькі дзён паліваць, калі няма дажджу.

Ад залішняй вільгаці расьліна ідзе ў ліст і дае менш пладоў. Сухой пагоды памідор не баіцца.

Да цьвету памідор расьце памалу, а далей вельмі хутка. Бывае, што памідор разрастаецца; тады пакідаюць 2-3 сьцяблы, а рэшту абразаюць. Пладоў на расьліне пакідаюць таксама ня больш 10 шт. Прыбіраць памідоры трэба паступова і нават тады, калі яны пачнуць чырванець. Далей іх кладуць на сонца, дзе яны і дасьпеюць. Канчаткова памідоры трэба прыбіраць у пачатку халадоў, бо іх памідоры баяцца.

На насеньне пакідаюць першыя і добра высьпеўшыя плады. Зярняты з іх сушаць і захоўваюць у халаднаватым і сухім месцы. Насеньне памідор ня траціць усходжасьці ў працягу трох год. Памідоры трэба садзіць далей ад бульбы, каб захаваць іх ад бульбянай хваробы.

Памідоры ўжываюцца сырымі і салёнымі. Для саленьня бяруць нясьпелыя і маласьпелыя плады. Памідоры маюць і лекавае значэньне: яны маюць у сабе значную колькасьць жалеза.

**М. Коканаў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

---

# Шкоднікі саду.

Ужо рана вясною зьяўляюцца ворагі расьлін—кузуркі, якія пачынаюць зьядаць лісьце, кветкі і плады дрэў. Шкодны яны тым, што зьяўляецца іх вельмі многа. Адна кузурка кладзе па некалькі сотняў яечак.

Адным з такіх шкоднікаў зьяўляецца *пладажорка*, гэта невялікі матылёк чорна-шэрага колеру з цёмнымі палосамі на крыльлях. Калі мы разрэжам апаўшае яблыка, то ўбачым у ім чарвячка. Гэты чарвячок і ёсьць вусень матылька пладажоркі.



Яблыка, пашкоджанае вусенем пладажоркі.

Матылёк гэты лятае толькі вечарам. З паловы траўня і да ліпеня ён кладзе свае яечкі на нясьпелыя плады садовых дрэў. Тыдні праз паўтара з яечак выходзяць чарвячкі (вусені), якія прагрызаюць плады да зёран. Калі гэтыя чарвячкі падрастуць, то спускаюцца па павучыне з дрэва і ўтвараюць кукончыкі ў шчылінах кары, на пнёх, платох і г. д. Праз 2-3 тыдні, а то і ў наступную вясну з кукончыкаў выходзяць матылькі.

Калі мы ня будзем весьці барацьбу з гэтымі ворагамі расьлін, то яны размножацца да таго, што ад нашага ўраджаю нічога не застанецца.

*Барацьба.* Каб пазбавіцца ад пладажоркі, перш усяго трэба зьбіраць апаўшыя плады ў садзе, затым апырскваць дрэвы парыскай зеленьню ў працягу лета 5 раз. Першы раз апырскваюць да распусканьня пучкоў, другі перад красаваньнем, трэці зараз-жа пасьля ападу цьвету, чацьверты праз 10-15 дзён пасьля трэцяга і пяты раз праз 10-15 дзён пасьля чацьвертага. Парыскай зелені і нягашанай вапны кладуць 13 грам. (3 зал.) на вядро вады. Вапну раней абгашваюць, а потым разводзяць вадой. Парыскую зелень разьмешваюць з вадой у асобнай пасудзіне і потым уліваюць у разбаўленую вадой вапну і даліваюць да гэтае мешаніны ваду.


Яблынавая моль.

*Другім шкоднікам,* які наносіць вялікую шкоду саду, зьяўляецца *яблынавая моль.* Гэта маленьні матылёк з срабрыстымі пярэднімі і шэрымі заднімі крыльлямі. Шкодзіць не матылёк, а яго вусень, які зьядае лісьце. Лятае матылёк вечарам і ноччу, а днём сядзіць схаваўшыся. Гэты матылёк зьяўляецца ў другой палове чэрвеня і ліпеня. Яечкі кладзе на кару маладых яблын кучкамі ад 15 да 67 штук. Праз месяц з іх выходзяць вусені сьветла-жоўтага колеру з чорнымі плямамі. Вусені яблынавай молі робяць на лісьцях з павучыны гнёзды. У канцы травеня і ў пачатку чэрвеня яны ператвараюцца ў кукончыкі цэлымі сем'ямі.



Матылёк, яечкі і вусень шоўкапрада.

*Барацьба* з яблынавай мольлю. Можна раіць здыманьне гнёздаў у той час, калі вусені ўжо ўтвараюць кукончыкі. Таксама можна апырскваць парыскай зеленьню. Для гэтага бярэцца 6—8 грам. ($1^1/_2$—2 зал.) парыскай зелені і 8—34 грам. (2—8 зал.) сьвежаадгашанай вапны на вядро вады. Можна яшчэ апырскваць і джыпсінам. Яго бяруць 15—25 грам. (3—6 зал.) на вядро вады.

Вялікую шкоду прыносіць саду і *пярсьцёнкавы шоўкапрад.* Гэта даволі вялікі матылёк, пярэднія крыльля якога жоўтага або бура-чырвонага колеру з двума цёмна-бурымі папярэчнымі палосамі. Заднія крыльлі сьвятлейшыя. Вусені гэтага матыля зьністажаюць лісьце.

Зьяўляюцца гэтыя матылі ў ліпені і праз тыдзень кладуць яечкі на маладыя галінкі. Вясной наступнага году з іх выходзяць вусені з блакітнымі чырвона-жоўтымі і белымі палоскамі ўздоўж цела. Гэтыя вусені прадуць шмат тонкіх нітак, па якіх перапаўзаюць для здабываньня харчу. Жывуць яны сем'ямі да ўтварэньня кукончыкаў. Ядуць пучкі і лісьце.

*Барацьба.* Увосень або раньняй вясной галінкі, на якіх паложаны яечкі, абразаюць і паляць. Вясной, калі вусені сядзяць купамі, іх здымаюць разам з павучынай рашчэпленай на канцы палкай і зьністажаюць.

З. Сяргеева-Булаўка.

---

# Кабылкі або цыкадкі, як шкоднікі збожжавых расьлін.

У палове чэрвеня 1925 г. мне прынесьлі пашкоджаныя расьліны ярыны пшаніцы і аўса) з вёскі Даўнары (Верацейскага с.-с., Дубровенскага раёну, Аршанскае акругі). У значн й меры было пашкоджана поле гр-на Аржалкоўскага (звыш 1 дзес.). Гэта поле знаходзіцца каля

Асінаўскага тарфянога балота, плошча якога каля 12.000 дзес. Былі таксама прынесены і шкоднікі. Гэтых кузурак называлі на месцы „балотнай тлёй“ і думалі, што яны разводзяцца на балоце, якое ляжыць каля поля Аржалкоўскага. Думку гэту выказалі мясцовыя агрономы. Нажаль, падрабязнага вывучэньня жыцьця гэтых кузурак ня было зроблена. А між тым дзеля таго, каб вызначыць шкоду, якую прыносяць гэтыя кузуркі, і вызначыць час найбольш небясьпечнай і шкоднай іх працы на палёх, і найці пэўны спосаб барацьбы з імі, трэба абавязкова добра пазнаёміцца з іх жыцьцём і г. д.

Каб лепш даведацца аб гэтай кузурцы, я зрабіў яшчэ некалькі запытаньняў на месца. Мне адказалі, што: шкоднік зьявіўся ў Дубровенскім раёне, Верацейскага с.-с., у вёсцы Новыя Халмы ў пачатку чэрвеня 1925 г.; пачаў шкодзіць галоўным чынам усходам аўса, ячменю, яравой пшаніцы, гароху, азімага жыта і лугавым травам. Шкоднік зьністожыў 1/2 дзес. яравой пшаніцы, 10 дзес. сенажаці, 1 дзес. аўса, 1/4 дзес. гароху і 1/2 дзес. жыта. Меры барацьбы складаліся з апырскваньня такім саставам: 30 фун. вады, 1 1/2 фун. карасіны і 1/2 фун. зялёнага мыла. Шкоднікаў стала менш, а праз два тыдні яны зусім зьніклі. Але для нас застаецца незразумелым, ці зьнік шкоднік ад апырскваньня, ці ён і бяз гэтага павінен быў зьнікнуць па характару свайго жыцьця. Гэта пытаньне можна канчаткова вырашыць толькі пасьля пастаноўкі контрольных вопытаў і пасьля ўважлівага назіраньня за жыцьцём шкодніка.

Вывучэньне гэтага шкодніка мною і далейшая праверка яго спэцыялістым А. Н. Кірычэнкам (Ленінград) давялі, што мы маем перад сабою шасьцёх-кропкавую кабылку або цыкадку (Cicadula Seanotata Sall).

Паміж іншым, аб гэтай кабылцы маецца навейшая праца 1925 г. Фульгрэна ў Швэдзкай антомолёгічнай часопісі, з якой відаць, што кабылка гэта ў 1918 г. зьністожыла ў Швэцыі азімай пшаніцы на 5.000.000 крон; што яна пераходзіць на жыта і ячмень, дае ў год 2-3 пакаленьні; невялікія пашкоджаныя ёю вучасткі раіцца апырскваць нікацінам (1 частку на 1000 част. вады).

У Беларусі ўжо таксама маецца кабылка, якая зьяўляецца злым ворагам нашых палявых расьлін, а затым і на барацьбу з ёю трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Прапаную ўсім агрономам, сельскім гаспадаром і культурным грамадзянам адзначаць, сачыць і зьбіраць кабылак. Пажадана перасылаць іх нам або ў другое месца для вывучэньня, з далучэньнем сваіх нагляданьняў.

Цыкадка—гэта кузурка каля 2-х міл. даўжыні, сьветлажоўтага колеру, з чорнымі плямамі і кропкамі. Скача, мае калючы носік. Яечкі кладзе ўвосень на сьцяблох збожжавых расьлін пры самай зямлі. Вясною з яечак выходзяць чарвячкі, якія да паловы чэрвеня выцягваюць сок з расьлін і гэтым нішчаць іх. Нагляданьні за жыцьцём гэтых кузурак дапамогуць змагацца з імі. З вясны пажадана пачаць такія нагляданьні.

**Проф. П. Салаўёў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Сялянская малочная скаціна.

*(З досьледаў Турскай дасьледчай станцыі).*

**53 проц. сялянскага быдла—бязпародныя каровы з удоем за 6 летніх м-цаў 37 п. Сярэдняя вага нашай каровы 29 п. 37 ф. Найбольшы ўдой бывае ў Чэрвені і Ліпені (10 п.). Добрае кармленьне зімою можа павялічыць удоі летам да 21 п. за 6 м-цаў.**

Палепшаньне малочнай скаціны для БССР мае вялікае значэньне, бо тут разьвіцьцё сельскае гаспадаркі будуецца на павялічэньні значэньня жывёлагадоўлі, якая і зараз мае значную ролю ў прыбытку сельскай гаспадаркі.

Земорганамі, коопэрацыяй і агрономічнымі організацыямі робяцца розныя мерапрыемствы для палепшаньня жывёлагадоўлі. Дасьледчыяж установы паставілі сваёй задачай вывучэньне спосабаў падняцьця продукцыйнасьці скаціны, як умелае кармленьне і г. д. Але каб правесьці ўсё гэта ў жыцьцё, трэба ведаць, як стаіць справа жывёлагадоўлі ў сялянскай гаспадарцы. Да гэтага часу гэта пытаньне было мала высьветлена.

У 1925 г. на Турскай с.-г. даследчай станцыі адчыніўся сыраварны завод. Жадаючы павялічыць колькасьць малака на заводзе, дасьледчая станцыя ўзяла па пашу 47 сялянскіх кароў бліжэйшых вёсак пры ўмовах, што ўсё малако будзе ісьці дасьледчай станцыі (па 90 кап. за пуд). Адначасна з гаспадарчай задачай дасьледчая станцыя паставіла сабе мэтай зрабіць і назіраньне над сялянскім быдлам.

Уся праца па догляду за каровамі і назіраньню за імі была даручана жывёлаводу дасьледчай станцыі Я. К. Сакалову. Каровы прымаліся (з 8 па 24 траўня) амаль без адбору (забракавана 4). Усяго было набрана 47 кароў (30 шт. з в. в. Хадасэвічы і Турск і 17 шт. з бліжэйшых хутароў). Каровы ўсё лета знаходзіліся на дасьледчай станцыі.

У час прыёму каровы былі зважаны і па надворнаму выгляду была адзначана парода кожнай каровы. Гаспадароў апыталі аб зімовым утрыманьні кароў, іх кармленьні, спосабу выкарыстаньня маладняка і г. д. Не зьвярталася ўвага на адбор кароў з лепшымі адзнакамі малочнасьці.

Усё быдла, за выключэньнем некаторых кароў хутаранцаў і вёскі Турск, было з добрымі надворнымі адзнакамі малочнасьці, як тыповае

для мясцовых умоў,—стракатае па масьці, узросту, складу, жырнасьці, з доўгаю кудлатай шэрсьцю, з слабымі касьцямі, малым вымем і г. д.

Далей паказваюцца некаторыя апрацаваныя матэрыялы аб гэтым сялянскім быдле за час ад траўня па кастрычнік месяц.

*Парода.* Большасьць кароў (26 штук, або 55,3 проц.) належыць да беспародных мясцовых. Палепшаных мясцовых кароў але пароднасьць якіх усё-ж такі трудна вызначыць 5 шт; чыстакроўная пародзістая была 1 шт. і мэтысаў (мешанцаў)—15 штук.

Удой і даход ад кароў розных парод за 6 месяцаў быў такі:

| Парода. | Лік кароў. | Сярэдні ўдой. | | Даход. | | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пуд. | Фун. | Руб. | Кап. | |
| Мясцовыя безпар. | 26 | 37 | 28 ½ | 33 | 94 | Па масьці каровы падзяляюцца: |
| „ палепшан. | 5 | 39 | 19 | 34 | 21 | чырвоных . . 14 |
| Мэтысы ангельскія | 4 | 35 | 16 | 32 | 86 | страката-чырв. 11 |
| „ брэйтэнбур. | 4 | 37 | 2 ½ | 33 | 35 | страката-чорн. 8<br>чорных . . . 5 |
| „ галяндэрск. | 7 | 41 | 25 | 37 | 47 | бурых . . . 5<br>шэрых . . . 1 |
| Чыстакр. швіцаў | 1 | 49 | 11 ½ | 44 | 35 | белых . . . 3 |

Паказаная табліца сьведчыць, што большасьць кароў мясцовых „беспародных“, якія па сваёй продукцыйнасьці мала чаго горшыя, чым мяшанцы пры тых жа ўмовах утрыманьня. Але найбольш кволыя і далікатныя каровы—мэтысы ангельскай пароды. Вялікі ўдой чыстакроўнае швіцкае каровы тлумачыцца яе добрым утрыманьнем на працягу зімы, што вельмі важна для быдла.

*Вага кароў.* Сярэдняя вага (47 штук) 318 клгр. (19 п. 35 ф.) Большасьць жа кароў малое вагі; толькі 13 проц. (13 кароў на 100 шт.) важыла больш 350 клгр.

| Вага ў кілёграмах. | Лік кароў. | Сярэдні ўдой за час пашы. |
|---|---|---|
| Да 275 клгр. | 10 | 34 пуд. 26 ½ фун. |
| „ 275-300 „ | 11 | 38 „ 13 „ |
| „ 801-350 „ | 18 | 41 „ 10 „ |
| „ 351-400 „ | 6 | 35 „ 15 ½ „ |

Табліца паказвае, што большасьць кароў была лёгкіх да 18 пуд. вагі ў сярэднім, што ў мясцовых умовах найбольшы ўдой кароў бывае пры вазе ў 20 пуд. і што больш цяжкія каровы (звыш 400 клгр.) ужо значна зьмяншаюць удоі.

*Узрост.* Большасьць кароў па ўзросту сярэднія (5·8 год); яны зьяўляюцца найбольш і продукцыйнымі.

| Узрост. | Лік кароў. | Сярэдні ўдой за час пашы. |
|---|---|---|
| Да 4 г. | 6 | 32 п. 34 фун. |
| „ 5-6 г. | 13 | 38 „ 13 „ |
| „ 7-8 „ | 14 | 40 „ 2 „ |
| „ 1-10 „ | 8 | 39 „ 8½ „ |
| больш10 „ | 6 | 38 „ 14 „ |

Найбольшага ўдою каровы дасягаюць у 8 г. (40 п. 2 ф.). Далей паступова ўдоі зьніжаюцца.

*Зьмена ўдояў па часу пашы.* За 6 мес. пашы каровы далі найбольшы месячны ўдой у чэрвені (10 п, 3 1/2 фун.) і ліпені (10 п. 18 ф.). Пачынаючы-ж з жніўня м-ца ідзе паступовае зьніжэньне ўдояў (жнівень 7 п. 39 1/2 фун.), верасень 5 .п 33 1/2 ф. і кастрычнік 1 п. 30 1/2 фун. Значнаму зьмяншэньню ўдояў у жніўні спрыялі дрэнная пагода і горшая паша.

*Уплыў зімовага кармленьня.* Зназіраньняў даследчае станцыі над быдлам свае гаспадаркі выявілася, што зімовае кармленьне ня толькі павышае ці паніжае ўдой зімою, але мае ўплыў і на летнія ўдоі, у час пашы. Вось чаму цікава ўлічваць, якое было кармленьне кароў у сялянскай гаспадарцы зімою. Для гэтай мэты мы падзялілі ўсіх сялянскіх кароў на чатыры групы як для кожнай складаўся сутачны корм на ўвесь час стойлавага ўтрыманьня. Далей табліца паказвае, як ад гэтага мяняліся ўдоі летам у час пашы.

| Група. | СУТАЧНЫ КОРМ. | Лік кароў. | Кармов. адзінк. у суткі. | Сярэдні ўдой за час пашы. | Даход. |
|---|---|---|---|---|---|
| I. | Дрэннае сена і яравая салома | 22 | 8 1/4 | 36 п. 14 ф. | 32 р. 72 к. |
| II. | Сена 15 фун.<br>Саломы 15 фун.<br>Бульбы 6 „ | 16 | 9 1/8 | 38 п. 10 ф. | 34 р. 42 к. |
| III. | Сена 15 фун.<br>Саломы 15 фун.<br>Бульба, мука, макуха. | 7 | 10 3/8 | 40 п. 11 ф. | 36 р. 25 к. |
| IV. | Сена 25 фун.<br>Бульбы 25 фун.<br>Макуха, мука розная | 2 | 12 1/4 | 57 п. 1/2 ф. | 51 р. 31 к. |

Большасьць кароў знаходзіцца на дрэнным корме (22 каровы, 47 проц.), атрымоўваюць яравую салому і дрэннае сена, усяго 8 1/4 кармовых адзінак. Ад гэтага ўдой іх за час пашы самы малы—36 п. 14 ф. Тыя-ж каровы, што атрымоўвалі зімою да 12 1/4 карм. адзінак, далі за 6 летніх месяцаў 57 п. малака. Значыць, чым лепшае зімовае кармленьне кароў, тым большы ўдой ад іх і летам.

Больш выразныя лічбы павялічэньня ўдояў летам ад лепшага кармленьня кароў зімою можна бачыць з такіх-жа назіраньняў за каровамі Турскай дасьледчай станцыі.

| Год | Кармовая дача ў стойлавы пэрыод. | Кармов. адзінак. | Удой за стойлавы пэрыод. | Удой за час пашы ў полі. | Прыбаўка па 1921 году. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1921 | Салома і часамі сена | 5,2 | 13 п. 23 ф. | 24 п. 5 ф. | — |
| 1922 | Яравая салома, сена і ў нязначным ліку розная мука | 8,3 | 16 „ 25 „ | 26 „ 35 „ | 2 п. 30 ф. |
| 1923 | Ярав. салома, сена, макуха і корань-плоды | 8,9 | 14 „ 36 „ | 42 „ 21 „ | 18 „ 16 „ |
| 1924 | „ „ | 11,1 | 20 „ 02 „ | 57 „ 22 „ | 23 „ 17 „ |
| 1925 | „ „ | 14,2 | 40 „ 06 „ | 60 „ 25 „ | 26 „ 20 „ |

*Палепшаньне пароды быдла.* 31 карова, або 66 проц. усяго статка былі прыпушчаны да безпародных быкоў; 15 кароў, або 30 проц.—да мэтысаў галяндэрскай, брэйтэнбургскай і ангельнскай пароды. Адна карова была злучана з чыстакроўным быком швіцкай пароды. Такая малая ўвага палепшаньню пароды кароў тлумачыцца адсутнасьцю ў насельніцтва добрых чыстакроўных быкоў, а падругое, што некаторыя мэтысаваныя каровы ў нашых умовах па сваіх якасьцях нават горш за мясцовыя, якія не пераборлівы на корм і г. д.

*Скарыстаньне маладняка.* Дзьве каровы былі ялаўкамі, а 45 шт. далі прыплод (22 цёлкі і 23 бычкі).

З 22 бычкоў былі 9 мэтысаў галяндэрскай, брэйтэнбургскай і ангельнскай пароды і 13 беспародных. Усе бычкі праданы (большасьць на ўбой). На гадоўлю ў сваёй гаспадарцы не пакінуты ніводзін бычок.

З 23-х цялушак—адна чыстакроўная швіцкай пароды, 5 мэтысаў і 17 беспародных. Палова цялушак пакінута ў сваёй гаспадарцы, а рэшта праданы на гадоўлю ці на ўбой. Пакінуты чыстакроўная швіца, мэтысы галяндэрскай пароды і мясцовыя.

*Выпойваньне цялят.* Спосаб выпойваньня цялят розны. Два найбольш культурныя гаспадары, якія маюць добрыя каровы (галяндэрскай і швіцкай пароды), выпойваюць цялят правільна. Да аднаго тыдню яны даюць 9-10 фун. малака ў дзень, а ў 7-15 дзён—па 14-15 фун. Далей у адным выпадку зьмяншаецца колькасьць няздыманага малака з дабаўленьнем здыманага і потым пойла з макухі і мукі. У другім выпадку адразу пераходзяць на кармленьне пойлам з рознай мукі з дабаўкай макухі. Пасьля 5 тыдняў ужо даецца і сена. Так кормяць найбольш культурныя гаспадары. Большасьць гаспадароў пакідаюць цёлак да 4—6 тыдняў пад кароваю. З часу адлучэньня, цёлкам даюць пойла з грэцкай мукі, дадаючы крошкі хлеба, вараную бульбу, макуху, або ільнянае семя. Некаторыя гаспадары пасьля 6 тыдняў даюць цялятам авёс, а большасьць гаспадароў толькі сена і пойла.

**Б. Бабіцкі.**

(Турская дасьледчая станцыя).

---

# Дзе і як пасьвіць скаціну вясною.

**Трэба асьцярожна пераводзіць кароў з сухога корму на сочны зялёны. У першыя дні пашы скаціну кормяць на палову сухімі кармамі, як і зімою.**

Разумны гаспадар павінен ведаць, як пераводзіць скаціну з зімовага сухога корму на зялёны падножны выпас. Каровы пасьля зімы з ахвотаю накідваюцца на ўсякую траву і ў першыя дні зьядаюць яе праз меру. Пасьля сухога корму зялёная і сочная трава ў вялікай колькасьці аслабляе жывёлу. З кароваю часта здараецца панос, колікі і інш. Шкодныя травы адбіваюцца таксама і на малаку і на маслу (дрэнны пах і смак). Трэба пераходзіць к пашы паволі.

Першы і другі дзень пускаць быдла на пашу трэба ня больш, як гадзіны на 3-4 пры добрай сухой пагодзе. Няхай скаціна першыя два дні больш прагуляецца, чым накорміцца ў полі. На 3 і 4 дзень скаціна трымаецца на пашы 4-6 гадзін. Наступныя дні каровы пасуцца па 7-8 гадзін і толькі цераз $1^1/_2$ тыдні быдла пускаюць на пашу на цэлы дзень. Усё гаворанае мною разьлічана на добрую пагоду. Калі-ж будзе дождж, сьпяшацца пускаць каровы на пашу ня трэба.

У першыя дні выгана кароў на пашу трэба даваць ім корм, як і ў хлеве. Прыблізна на 4 дзень выгану корм можна зьменшыць. Зьмяншэньне робіцца паступова. Калі каровы карміліся 3 разы ў дзень, то на 4 дзень пашы можна карміць 2 разы—раніцою, перад выганам на пашу і вечарам, калі скаціна прыдзе з пашы.

Трэба цьвёрда памятаць, што раніцою перад выганам у поле скаціну трэба падкарміць сенам і саломаю. Ня трэба выганяць быдла вельмі рана, калі яшчэ на траве трымаецца раса, а вясною і мароз. Пры такіх умовах у кароў бываюць выкідышы і ўздуцьцё жывата. Ня можна таксама пускаць галодных кароў рана вясною на зялёную канюшыну. Галодная скаціна накідваецца на канюшыну, аб‘ядаецца і хварэе на ўздуцьцё.

Ня трэба выганяць кароў на пашу калі і глеба яшчэ ня добра прасохла. Ад раньняга выпасу псуюцца паплавы і сенажаці. Трава на сырой глебе ўтаптваецца ў зямлю, а выган ці сенажаць робяцца купістымі. Лепш скаціну рана вясною выганяць на папарнае поле. Пазьней скаціну з папару пераводзяць на сталыя выпасы.

Пасьвіць скаціну ўсё лета на адным месцы ня трэба, а лепш падзяліць выган на 2-3 вучасткі і пасьвіць на іх па чарзе, хоць па тыдню. Стравіўшы адзін вучастак, мы даем магчымасьць двум іншым падняцца. Пры такім парадку скаціна будзе мець добрую пашу цэлае лета. Пры безталковай пашы скаціна ня столькі зьесьць, колькі вытапча травы.

На пашы каровы скора павялічваюць удоі малака. Кажу яшчэ раз, што асабліва трэба быць асьцярожным з пашаю ў першыя дні. Калі пераход ад зімовага да зялёнага корму кароў будзе зроблены без асьцярогі, то быдла можа захварэць паносам. Панос жа робіць на кароў дрэнны ўплыў: яны худняюць і даюць менш малака. А гэта прычыняе гаспадару страты.

Сел. **А. Карнейчык.**

Сарачынава, Пухавіцкі раён.

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Рамовы вулей павялічвае даход пасекі.

**Даходным пчалярства можа быць толькі ў рамовым вульлі, бо там пчолы толькі носяць мёд і ня вырабляюць вашчыны.**

Пчалярства—даходная галіна сельскае гаспадаркі. Можна напэўна сказаць, што ніякая другая галіна гаспадаркі не дае такога вялікага даходу на затрачаны капітал, як пчалярства і садоўніцтва, а яны слаба разьвіты ў БССР.

Пчалярства вядзецца ў нас старым спосабам. Вядома, гэты дзедаўскі спосаб быў добры, калі навокал пасекі былі ліставыя лясы, якія давалі вялікі мёдазбор. Але ня тое мы бачым цяпер.

Больш павялічваецца даход пчалярства пры рамовых вульлёх. Тут пчаляр зьяўляецца поўным гаспадаром на сваёй пасецы і па жаданьню можа накіроўваць працу пчол. Выняўшы рамку, ён адразу бачыць, у якім стане яго пчолы, ці ўсё там у парадку і г. д. Ня тое бывае ў калодзе, дзе гаспадар падыходзіць з завязанымі вачыма. У калодзе

вельмі часта пчолы гінуць з-за глупства, якога лёгка пазбыцца ў рамовым вульлі. Другое, у калодзе цяжка даведацца, якія сем'і будуць раіцца.

Таксама і ў штучным раеньні рамовы вулей вельмі просты і выгадны. Трэцяе, з адборам мёду. На практыцы ў рамовым вульлі робіцца так: пераварачваюць рамку і калі мёд не цячэ, то яго можна адбіраць. У закрытых рамках вострым нажом здымаюць пакрыцьцё, рамку ставяць у мёдагонку і выкачваюць мёд, а рамку з гатовай сушшу зноў ставяць у вулей.

Такім чынам, пчаляр звальняе пчол ад дарэмнай працы. Пчала толькі і ведае, што насіць мёд.

Адбор мёду бывае ў час „узятка“, дзеля чаго ніколі ня бывае кражы. У калодах жа часта бываюць пчаліныя войны.

У рамовых вульлёх пчаляру відаць, колькі застаецца мёду на зіму, якая матка і сіла сям'і. У калодах-жа пчолы ідуць на зіму „абы як“.

З усяго гэтага відаць, што каб павялічыць даход ад пчол, трэба заводзіць рамовыя вульлі і весьці пчалярства, як кажа аб гэтым навука.

Вядома, што апрача рамовых вульлёў прыдзецца набываць пчалярскі інвэнтар—мёдагонку, дымар, нажы, але ўсё гэта хутка аплоціцца.

Доўгалетні вопыт дасьледчых станцый паказвае, што лепшым вульлём для нашае мясцовасьці зьяўляецца вулей сыстэмы Дадан-Блатта.

Агроном **Буеўскі.**

---

# Як пераганяць пчол з калоды ў рамовы вулей.

*(Гутарка дзядзькі Грышкі з-пад Гаршчыны)* [1].

Калі напраўду вы толькі пачынаеце больш адмыслова займацца пчалярствам, дык вам будзе цікава і карысна паслухаць, як пераходзіць ад калоднага пчалярства да рамовага. Цяпер ужо і старыя пчаляры - калдуны пачынаюць пазнаваць, што ў рамовых вульлёх больш выгадней весьці пчалярства; у ім лепш наводзіць парадак, даглядаць пчол, памагаць ім у цяжкія моманты якіх-небудзь хвароб. Я кажу, што цяпер ужо гэта пачынаюць разумець, але як перайсьці да рамовых вульлёў, ня ўсякі ведае.

Звычайна раіцца пераганяць пчол з дуплянкі такім спосабам: зачыняюць ніжнюю даўжэю, пераварачваюць вулей галавой уніз і пачынаюць па вульлі пастукваць, каб пчолы сабраліся ў пусты верх. Тады выграбаюць пчол у раёўню і пачынаюць вырэзваць соты і перастаўляюць іх у рамкі. Перастаўіўшы соты ў рамовы вулей, вытрасаюць у вулей і пчол. Вось так пішуць і раяць у кніжках. Я спачатку так і прабаваў рабіць, але карысьці ад такой сям'і ня было ні гаспадару, ні самім пчолам. Я ня ведаю, чаму гэта ніхто недаглядзеў, якая шкода ад такога спосабу.

---

[1]) Запісаў М. Лайкоў

Першае, пчол не так то лёгка выганяць з іх гнязда; іншы раз прыходзіцца траціць цэлага паўдня, а пчолы ня выходзяць ад сваіх дзетак. Падругое, пакуль пераганяеш пчол часу праходзіць досыць многа і гняздо за гэты час пасьпявае ахаладзець, бо пчолы знаходзяцца ў раёўні, а соты з дзеткаю асобна ў халодным вульлі. Ад гэтага бывае вялікая страта дзеткі.

Патрэцяе, перанёсшы соты ў рамкі і рамовы вулей, выходзіць даволі разбуранае дзеля пчол гняздо і прытым даволі астужанае. Пчолы, вытрахнутыя ў новы вулей, зьбіраюцца ў кучу і могуць 5-6 гадзін прасядзець у пустым вульлі, за працу бяруцца неахвотна, чарва яшчэ больш астужваецца і паміраe.

Пачацьвертае, пры выграбаньні шмат пчол траціцца і чарва не дае ўзмацненьня сям'і; пчолы не выкарыстоўваюць мёдазбор.

Я ўжо даўно пераганяю пчол наступным парадкам. Папершае, выбіраецца час перагона пчол. Самым лепшым часам трэба лічыць, калі пачынаецца добры ўзяток мёду (красуе крушына). Дзень выбіраецца цёплы, ціхі. Перагонку трэба пачынаць з раніцы да вылета пчол на работу. Да гэтага часу падрыхтоўваецца рамовы вулей з пустымі рамкамі і высунутым дном. Можна ў вулей паставіць і адну рамку з мёдам. Далей, бяруцца за падрыхтоўку дуплянкі: вымаецца ніжняя даўжэя, уся пята вычышчаецца ад смецьця і сухой вашчыны. Потым вулей кладзецца на зямлю даўжэяй уверх і на адчыненую даўжэю настаўляецца рамовы вулей. Дно яго крыху адчыняецца так, каб шчыльна прыходзілася над даўжэяй, усе шчыліны затыкаюцца анучкамі ці замазваюцца глінай, каб пчолы пападалі толькі ў рамовы вулей. Дах рамовага вульля здымаецца (вулей закрыты толькі палатном). Наладзіўшы такім чынам вулей, адчыняюць верхнюю даўжэю і пагнаўшы крыху дымаром пчол з сотаў, пачынаюць іх вырэзваць. Пустыя соты без чарвы адкладаюцца ў пасудзіну, а з чарвою выразаюць такімі часткамі, каб яны прыходзіліся ў рамку. З адрэзанага кавалка сотаў выганяюць пчол з аднаго боку і гэтым бокам кладуць у рамку, а з верху пчолы кучачкаю могуць заставацца.

Запоўніўшы рамку сотамі, увязваюць іх шчэпачкамі і з пчоламі ўстаўляюць у вулей. Застаўшыяся на сотах пчолы падымаюць галкатню, на што пачынаюць накіроўвацца і другія пчолы з дуплянкі праз шчыліну.

Выбраўшы ўсе соты з дуплянкі праз шчыліну, рэшта пчол выганяецца дымаром у пяту, а адтуль на гукі большасьці пчол рамовага вульля яны падымаюцца ўгору. Гэтым перагонка і канчаецца. Застаецца толькі засунуць дно рамовага вульля, уцяпліць яго і паставіць на тое месца, дзе стаяла калода. Пчолы хутка знаёмяцца з новым памяшчэньнем і, дзякуючы пачатку мёдазбора, хутка зацягваюць усе свае рамкі і пачынаюць насіць узяток. Непарушаная дзетка павялічваецца і да восені дае карысьць.

---




# Сельска-гаспадарчыя гурткі, за практычную працу.

З надыходам вясны патрэбна, каб усе с.-г. гурткі ўзяліся за практычную працу па палепшаньню гаспадарак сваіх сяброў; патрэбна, каб кожнаму сябру гуртка была дадзена пэўная задача згодна агульнага пляну працы гуртка. Якую-ж практычную працу могуць праводзіць с.-г. гурткі?

Возьмем, напрыклад, паляводзтва. Тут кожны сябра гуртка можа праводзіць:

1) *ачыстку* і *сартаваньне насеньня*, асабліва для сваёй гаспадаркі;
2) *пратручваньне насеньня* ад галаўні ці сажы формалінам;
3) *баранаваньне раньняй вясною азіміны*, асабліва пшаніцы на цяжкіх глебах;
4) *пасеў канюшыны і вікі на лепшых глебах;* лубіну і сэрадэлі на лёгкіх пескавых глебах;
5) *пасеў караньплодаў* у гародах і пры сялібах;
6) *прымяненьне радковага пасеву;*
7) *прымяненьне мясцовых угнаеньняў*—попелу і торфу пад бульбу, а таксама мінэральных угнаеньняў (супэрфосфату, тамасшлаку і калійнае солі) пад іншыя расьліны;
8) *раньнюю воранку* і далейшы догляд за ім і інш.

Няхай кожны сябра с.-г. гуртка правядзе хоць адно-два з паказаных палепшаньняў і гэтым ён дапаможа ня толькі сабе, але і другім сябрам гуртка.

Возьмем яшчэ садоўніцтва. Тут практычнымі задачамі могуць быць такія работы:

1) прывядзеньне ў належны парадак саду: ачыстка кары, пабелка ствалоў вапнаю, перакопка зямлі паміж дрэвамі, угнаеньне і г. д.
2) барацьба са шкоднікамі саду апырскваньнем дрэў атрутамі перад красаваньнем саду і пасьля красаваньня і г. д.

Не пералічваю практычнай працы па іншых галінах гаспадаркі. Тут кожны сябра гуртка няхай параіцца з агрономам.

Апрача гэтага, кожны сябра гуртка павінен быць шчырым памоцнікам агронома ў яго працы па закладаньню паказальных вучасткаў, злучнай кампаніі, арганізацыі коопэрацыйных аб'яднаньняў, як машынныя, насенныя, мэліорацыйныя таварыствы, малочныя арцелі і г. д. Увосень будзе праводзіцца конкурс на лепшы с.-г. гурток і зразумелая рэч, што прэміраваны будуць толькі тыя гурткі, якія лепш паставілі практычную працу па палепшаньню гаспадарак сваіх і наваколічнага насельніцтва.

Дык за працу, таварышы гурткоўцы!

П. Заяц.

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Чаму ўтвараецца балота.

**Балота можа зьявіцца ў лесе, на сенажаці і нават па высокім месцы. Догляд сенажаці бароніць яе ад балота. Нізовыя балоты можна выкарыстоўваць, як добрае поле ці сенажаць.**

З практычнага боку забалачваньне розных с.-г. ужыткаў заслугоўвае асаблівай увагі, бо яно вельмі пашырана. Часта даводзіцца чуць скаргі насельніцтва, што мох загубіў сенажаць, „лезе“ на пахаць і лес; нават там, дзе нядаўна была добрая зямля, цяпер знаходзіцца балота.

Часьцей усяго забалачваюцца лес і сенажаці. Асабліва забалачваюцца ігластыя лясы, калі яны знаходзяцца ля балота. Але бываюць выпадкі, што лес забалачваецца ад застоя вады. Забалачваньню дапамагае таксама і гушчыня самога лесу, куды ня можа праходзіць вецер і сонечны сьвет; пры гэтым затрымоўваецца выпарваньне вільгаці з паверхні глебы. Яловыя лясы часта забалачваюцца ад таго, што тут знаходзіцца мох (кукушкін лён), які хутка пашыраецца і ў самы кароткі час пакрывае ўсю глебу. Адміраючы, кукушкін лён адкладвае торф цёмнага колеру.

Калі-ж слой яго дасягае некаторай вышыні, то сярод кукушкіна лёну зьяўляюцца ўжо дзярнікі белага моху (сфрагнума). Зьяўленьне гэтага моху паказвае, што лес стане балотам.

Нават і ў пачатку забалачваньня лес, які складаўся раней з елкі і сасны, траціць перш елку: яна ня любіць лішку вільгаці і гіне. Сасна ў пачатку забалачваньня расьце яшчэ добра, але калі нарасьце значны тарфяны слой, то яна спыняе рост і хутка прымае каросьлівы выгляд. Такім чынам ігласты лес можа стаць мохавым балотам.

Таксама праз забалачваньне *пераходзяць у балота і мяшаныя лясы,* але на месцы іх *утвараецца асаковае балота.*

З прычын забалачваньня першай трэба лічыць *старасьць сенажаці.* Вядома, што пакуль сенажаць маладая, лугавыя травы добра растуць, кусьцяцца і даюць шмат карэньняў. Але гэта маса карэньняў шкодзіць сама сабе; карэньні зрастаюцца ўсё гусьцей і гусьцей, надземныя парасткі больш пераплятаюцца. З бегам часу гэты дзёран пакрывае ўсю сенажаць і не прапускае ў глебу паветра, затрымоўвае ў сабе доўгі час ваду. Ад лішку вады і нястачы паветра хутка спыняецца ў глебе перагніваньне дробных карэнчыкаў і рэштак расьлін. Яны толькі чарнеюць, трухлеюць і закісаюць. Такім чынам, зямля паступова закісае і ў ёй зьяўляецца руда (закісь жалеза). Ад нястачы паветра задыхаюцца карэньні, а кісласьць (і закісь жалеза) іх канчаткова атручвае. Пры гэтым добрыя лугавыя травы пачынаюць гінуць, а на іх месцы зьяўляюцца сарнякі, малапрыгодныя расьліны і галоўным чынам мох.

Спачатку мох займае паасобныя лапінкі на сенажаці; але ён хутка пашыраецца і праз 3-4 гады пакрывае ўсю сенажаць. Такі імшаны слой канчаткова нішчыць апошнюю лугавую расьліннасьць і зьяўляецца вернай адзнакай забалочваньня сенажаці.

Пры няўмелым карыстаньні сенажацьцю (выпас скаціны) чалавек сам дапамагае забалочваньню сенажаці і даводзіць яе да таго, што яна робіцца зусім нягоднай. Аднак пры ўмелым скарыстаньні сенажаці, яна ня псуецца.

Асабліва псуецца сенажаць ад веснавога і асеньняга выпасу скаціны. На нізавых вільготных сенажацях, дзе глеба заўсёды пульхная, скаціна ўтаптвае яе; ад гэтага зьяўляюцца купіны, застойваецца вада і зьяўляецца мох. Самі купіны зьяўляюцца перашкодай для стока вады і гэтым яшчэ больш спрыяюць забалочваньню.

*Утварэньню балот* таксама спрыяюць *крыніцы*; дзякуючы таму, што яны выносяць свае воды на паверхню зямлі, глеба заўсёды бывае вільготнай. На такой сенажаці зьяўляецца балотная расьліннасьць, якая пасьля адміраньня ўтварае торф і далей балота.

*Балоты ўтвараюцца і ад застоя вады.* Яны-ж бываюць у нізінах паміж узгоркамі; на сенажацях, дзе сток вады заносіцца пяском або глеем, а часта каля насыпаў чыгунак, калі ён засланяе сабою сток вады.

*Якія бываюць балоты.* Перш, чым балота асушаць і сеяць на ім тую ці іншую расьліну, трэба ведаць, якія пажыўныя матэрыі ёсьць у балотнай глебе, бо ад гэтага залежыць і выбар расьліны.

*Травяное балота* звычайна бывае пакрыта асакою, з якой і ўтвараецца торф.

*На імшарным*-жа балоце торф утвараецца з белага балотнага моху. Апрача таго, тут сустракаецца верас, журавіны, багульнік балотны, а з дрэў—нізкарослая сасна і бяроза.

*На пераходным балоце* бывае расьліннасьць травянага і імшарнага балота. Такое балота сустракаецца, калі нізіннае, травянае балота пераходзіць у імшарнае.

Травянае балота можна з посьпехам абярнуць у с.-г. плошчы; імшарнае балота для свайго вырабу патрабуе доўгачаснай працы і шмат угнаеньня. За тое ў першы час з імшарнага балота можна здабываць торф на подсьціл і апал.

Наогул, трэба сказаць, што торф больш багаты пажыўнымі матэрыямі, чым глеба поля. Асабліва шмат у балотным торфе азоту.

Каб ацаніць гэту колькасьць азоту, даволі паказаць, што багатыя паўднёва-расійскія чорназёмныя глебы маюць азоту ад 0,2—0,5 проц., у той час, калі ў паасобных выпадках торф мае азоту каля 3 проц.

Нажаль, трэба адзначыць, што ўсе пажыўныя матэрыі ў балотных глебах вельмі трудна скарыстоўваюцца расьлінамі. *Толькі пры дапамозе чалавека, гэтыя багацьці нашых балот могуць стаць здабыткам для расьлін.*

Дзякуючы асушцы, паветра вольна праходзіць у балотную глебу; торф ад гэтага пачынае гнісьці і ўтварае пажыўныя матэрыі, якія раней не скарыстоўваліся расьлінамі.

Таксама раскладу торфа добра дапамагае вапна, якая зьністажае кісласьць глебы, спрыяе згніваньню торфа і робіць яго дробна-глыбкаватым, што так цэнна для ўсякай глебы.

Пасьля асушкі балотныя глебы лепш награваюцца, што ў сваю чаргу спрыяе росту расьлін і забясьпечвае іх ад прымаразкаў.

(Горкі, с.-г. Акадэмія). **Г. Берзін.**

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*